*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) №42 (202) 19 кастрычніка 1994 г. Кошт — 40 рублёў

# ПОСТУП ТЫДНЯ



❍ **РАСПАРАДЖЭННЕМ КІРАЎНІКА АДМІНІСТРАЦЫІ ПРЭЗІДЭНТА БЕЛАРУСІ ЛЕАНІДА СІНІЦЫНА НАЗНАЧАНЫ** адказныя прадстаўнікі адміністрацыі па абласцях — намеснікі старшыні Камісіі па вывучэнню работы мясцовых органаў дзяржаўнага кіравання са зваротамі грамадзян. Камісію ўзначальвае памочнік Прэзідэнта па асаблівых даручэннях Віктар Кучынскі.

❍ ***АДБЫЛОСЯ ЧАРГОВАЕ РАБОЧАЕ ПАСЯДЖЭННЕ ПРАВЫХ ПАРТЫЙ З МЭТАЙ УТВАРЭННЯ ПЕРАДВЫБАРНАГА БЛОКА.*** *У пасяджэнні ўдзельнічалі прадстаўнікі БНФ, ПНЗ, АДПБ, БСДГ, НДПБ. Да «Хартыі адзінства», прапанаванай БНФ, і «Пагадненне аб супрацоўніцтве ў час парламенцкіх выбараў», прапанаванага БСДГ, далучыліся прапановы ПНЗ з «Дэкларацыяй прынцыпаў і правілаў вядзення палітычнай дзейнасці ў Беларусі».*

❍ **УКЛЮЧЫЛІСЯ Ў ЭКСПЛУАТАЦЫЮ Ў САСТАВЕ БЕЛАРУСКАЙ ЧЫГУНКІ ЎЧАСТКІ І СТАНЦЫІ, ПРЫНЯТЫЯ АД ДЗЯРЖАЎНАГА ПРАДПРЫЕМСТВА «ЛЕТУВОС ГЯЛЯЖЫНКЯЛЯЙ» (ЛІТВА).** Нам вернуты часткі дарогі Друскінінкай—Парэчча—Марцінконіс, у тым ліку станцыі Парэчча, Кяна, Гудагай, Пабрадэ—Лынтупы—Гадуцішкі, а таксама станцыя Лынтупы, якая знаходзіцца на тэрыторыі Беларусі, але эксплуатавалася літоўскім ведамствам.

❍ ***У ІНСТЫТУЦЕ ГІСТОРЫІ АКАДЭМІІ НАВУК АДБЫЎСЯ II З'ЕЗД БЕЛАРУСКАЙ АСАЦЫЯЦЫІ АХВЯР ПАЛІТЫЧНЫХ РЭПРЭСІЙ.*** *З дакладам аб зробленай рабоце выступіў гісторык Георгій Штыхаў. На з'ездзе абраны новы прэзідэнт Беларускай асацыяцыі ахвяр палітычных рэпрэсій — пісьменніца Алена Кобец-Філімонава.*

❍ **ПРЭЗІДЭНТ АКАДЭМІІ НАВУК БЕЛАРУСІ ЛЕАНІД СУШЧЭНЯ** першым з беларускіх навукоўцаў атрымаў высокае званне замежнага члена Польскай акадэміі навук. Дацэнт БДУ Кіра Гюлумянц атрымала ганаровы знак «Заслужаны дзеяч польскай культуры». Яна ўжо шмат гадоў выкладае мову суседняй краіны студэнтам-філолагам, вядзе заняткі з беларускімі палякамі.

❍ ***СТВОРАНА БЕЛАРУСКАЯ АКАДЭМІЯ АДУКАЦЫІ.*** *Галоўнай яе мэтай стане кансалідацыя намаганняў шматлікіх навукоўцаў ВНУ, НДІ і іншых навучальных устаноў для вырашэння важнейшых праблем адукацыі. Тайным галасаваннем на ўстаноўчым сходзе прэзідэнтам Беларускай акадэміі адукацыі абраны міністр адукацыі і навукі, доктар фізіка-матэматычных навук прафесар В.Стражаў.*

*РЭХА*

## Акадэмік Леанід ЦІХАНАЎ: працэс нацыянальнага адраджэння — аб'ектыўны. Зварот да старога ўжо немагчымы

**(Гутарка з рэктарам Менскага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта, акадэмікам Акадэміі навук вышэйшай школы, доктарам гістарычных навук, прафесарам Леанідам Ніканоравічам Ціханавым)**

**— Леанід Ніканоравіч, чым прыкметны пачатак гэтага навучальнага года? Якія былі своеасаблівасці пры наборы студэнтаў?**

— Да гэтага навучальнага года мы рыхтаваліся асабліва старанна. Хацелася паспець падрыхтаваць новыя навучальныя планы універсітэцкага тыпу па ўсіх спецыяльнасцях і спецыялізацыях. І гэта паспяхова зроблена. Усім у нашай рэспубліцы ўжо вядома, што навучанне ў нас ідзе на беларускай мове з сур'ёзным паглыбленнем ведаў студэнтаў па нацыянальнай гісторыі і культуры, псіхалогіі, сацыяльнай педагогіцы, метадалогіі асноўнай спецыяльнасці. Пачалася падрыхтоўка будучых педагогаў па шматузроўневай сістэме. Ужо зроблены першы выпуск бакалаўраў, набраны першы курс магістраў.

Для нас з'яўляецца вельмі прыкметным, што ў авангардзе ўсёй гэтай работы ідзе наш нядаўна адкрыты факультэт беларускай філалогіі і культуры. Менавіта пагэтаму, на нашу думку, факультэт з'яўляецца адным з самых папулярных у выпускнікоў школы. Сёлета падалі заявы на гэты факультэт 509 юнакоў і дзяўчат пры плане прыёму 150 чалавек. Мы вымушаны былі залічыць у склад студэнтаў 172 чалавекі, бо прэтэндавалі на гэта званне адных толькі медалістаў 125. Прахадны бал — 14. Апрача гэтага, звыш 150 юнакоў і дзяўчат будуць імкнуцца атрымаць ганаровае званне настаўніка беларускай мовы і літаратуры на завочным і вячэрнім аддзяленнях.

**— Леанід Ніканоравіч, нават па выступленні народнага паэта Ніла Гілевіча на ўрачыстым вечары, прысвечаным Дню беларускага пісьменства і друку, Вы зразумелі рэакцыю свядомай беларускай інтэлігенцыі на тое, што адбылося ў педагагічным універсітэце на сустрэчы выкладчыкаў і студэнтаў з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Рыгоравічам Лукашэнкам. На заяву Прэзідэнта аб тым, што з пераводам школ на дзяржаўную мову ў Беларускай дзяржаве будзе пакончана, у зале раптам раздаліся дружныя воплескі. Асабліва ўражвае, што гэта адбылося практычна ў галоўнай педагагічнай навучальнай установе Беларусі, якой з'яўляецца ваш універсітэт. Некаторыя мае знаёмыя расказвалі, што былі ў шоку ад убачанага і пачутага на той сустрэчы. Як Вы самі лічыце, чаму такое здарылася? Некаторыя кажуць, што да сустрэчы з Прэзідэнтам быў падабраны адпаведны кантынгент выкладчыкаў і студэнтаў, так бы мовіць, па адпрацаванай кампартыйнай методзе.**

— Калі мы даведаліся, што першы Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка пажадаў сустрэцца з выкладчыкамі і студэнтамі універсітэта, то мы гэтым былі вельмі задаволены. Бо візіт Прэзідэнта — гэта клопат аб першай у гісторыі Беларусі вышэйшай педагагічнай установе універсітэцкага тыпу, працуючай на адраджэнне роднай Бацькаўшчыны, клопат увогуле аб настаўніку. Гэта мы і адчулі на працягу сустрэчы. Аляксандр Рыгоравіч вельмі зацікаўлена азнаёміўся з універсітэтам, умовамі яго працы.

Што да канцэптуальных падыходаў Прэзідэнта да шэрага праблем адукацыі і выхавання моладзі і танальнасці рэакцыі на іх выкладчыкаў, студэнтаў нашага універсітэта, а таксама некаторых прадстаўнікоў інтэлігенцыі рэспублікі, то згадзіцеся, мне было б некарэктна ўсё гэта каменціраваць, хоць Вы і Вашы калегі настойліва дамагаецеся гэтага. Я як рэктар павінен забяспечыць выкананне ва універсітэце Закона аб адукацыі Рэспублікі Беларусь, Закона аб мовах Рэспублікі Беларусь і іншых дырэктыўных папер. На сённяшні дзень ніякіх перашкод у нашай дзейнасці ў гэтым накірунку няма, і я ўпэўнены, што і не будзе. Бо працэс нацыянальнага адраджэння — працэс аб'ектыўны, гістарычна абгрунтаваны, і зварот да старога ўжо немагчымы.

**— Чытачы і супрацоўнікі рэдакцыі газеты «Наша слова» жадаюць здароўя і поспехаў у вучобе студэнтам вашага універсітэта. Сапраўды, вельмі правільна сказаў у сваім выступленні Прэзідэнт, што ад таго, якія будуць у нас педагогі, такімі ў значнай ступені будуць грамадзяне, сем'і, такой будзе і будучыня народа Беларусі. Дзякую за тое, што знайшлі час для гутаркі.**

Распытвала Любоў БАРШЧЭЎСКАЯ.

***ЭСЭСЭРАЎЦЫ ПРЫВЫКЛІ НЕ САРОМЕЦЦА І БРАЦЬ НАХРАПАМ*** *Стар. 2*

***"БЕЛАРУСКУЮ ВЁСКУ" Ў ЛОНДАНЕ ВЕДАЮЦЬ АНГЛІЧАНЕ*** *Стар. 3*

*АЛЕ!*

## ІСТОТНАЕ ЎДАКЛАДНЕННЕ «НАРОДНАЙ ГАЗЕТЫ»

У 181-м нумары «Народная газета» апублікавала змястоўнае інтэрв'ю міністра ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь Юрыя Захаранкі. А назаўтра, у 182-м нумары газета друкуе «Уточнение» (дзіўна, што нават гэтую заметку не маглі ўжо даць на беларускай мове), дзе паведамляецца пра дапушчаную «неточность». Што ж, у газетнай практыцы гэта, на жаль, бывае. Але чамусьці здаецца, што карані гэтай недакладнасці не ў нейчым механічным недаглядзе, а магчыма ў адносінах рэдакцыі да праблемы міграцыі. Як памятаюць чытачы, гэтаму пытанню «Наша слова» прысвяціла на пачатку года некалькі матэрыялаў. «Паток пагражае ператварыцца ў патоп» — так называўся адзін з іх. Тады мы прапанавалі рэдакцыям некаторых газет прадоўжыць гэтую тэму разам, каб пераканаць Вярхоўны Савет у неабходнасці прыняцця адпаведнага закона. Асаблівае спадзяванне было на «Народную газету», якую перш за іншыя чытаюць дэпутаты. Але адгукнуўся на нашу прапанову аб сумесных дзеяннях толькі «Добры вечар» — газета Менскага гарсавета, у якім, дарэчы, да міграцыйных праблем ставяцца вельмі адказна. Ну а цяпер вось «Народная газета» сціпла ўдакладняе, што трэба чытаць у яе матэрыяле: толькі афіцыйна за апошнія два гады ў Беларусь на пастаяннае месца жыхарства перабралася не 40 тысяч іншаземцаў, а ажно 240 тысяч.

Ну, а нелегальных імігрантаў ніхто не лічыў, адзначае ў інтэрв'ю міністр унутраных спраў Рэспублікі Беларусь. Не хапае нам сваіх крымінальнікаў, дык яшчэ і прышлыя паспелі толькі ў гэтым годзе ўчыніць 754 выяўленыя злачынствы і больш за 28 тысяч адміністрацыйных правапарушэнняў.

А хто аналізаваў, як гэта ўсё ўплывае на псіхалагічны стан насельніцтва, на сацыяльна-палітычныя працэсы? Ужо ж не лепшым чынам. Тым не менш, як сведчыць міністр унутраных спраў, «сістэма выдварэння такіх асоб з рэспублікі не дзейнічае, бо адсутнічаюць заканадаўчыя акты па рэгламентацыі іх прававога стану ў Беларусі».

Так вось і жывём — на крымінагенным і сацыяльным вулкане. А ў гэты час нашы доблесныя ветэраны-дэпутаты ды «суперінтэры» ваююць з беларушчынай. Ды ўжо адна толькі беларуская мова, каб яна ўжывалася паўсюдна, стварала б пэўны бар'ер для бескантрольнай міграцыі.

Ул.АС.

***ПАДЧАРКІ НАШАЙ КУЛЬТУРЫ*** *Стар. 5*

З РЭДАКЦЫЙНАЙ ПОШТЫ

# СТВАРАЮЦЬ ПРАБЛЕМУ ТАМ, ДЗЕ ЯЕ НЯМА

У газеце «Звязда» ад 21 верасня 1994 года быў надрукаваны невялікі артыкул пад назвай «Будзе і ў нашай кішэні пашпарт». Аўтар гэтага артыкула Вячаслаў Будкевіч (БелаПАН), між іншым, адзначае, што ў галіне пашпартызацыі насельніцтва «самая вялікая праблема — адсутнасць спецыяльных беларуска-англійскіх слоўнікаў, якія б дазвалялі перакладаць імёны і прозвішчы грамадзян рэспублікі». Аднак і самому аўтару артыкула, і ўсім іншым, хто чакае такога дапаможніка, скажу загадзя, што ніякі беларуска-ангельскі слоўнік гэтую праблему не вырашыць, бо ангельскі алфавіт прыстасаваны для перадачы менавіта ангельскіх гукаў. І зусім натуральна, што ні немцы, ні французы, ні датчане, ні японцы не пішуць свае імёны на ангельскі манер. Чаму ж беларусы павінны ламаць галаву, як напісаць сваё найменне па-ангельску? Дый літары ангельскага алфавіта прадстаўнікі розных нацыянальнасцей будуць чытаць па-свойму. Так, напрыклад, спалучэнне ch перадае ў ангельскай мове гук «ч». Але ж для француза гэтае спалучэнне азначае гук «ш», для немца — «х», для італьянца — «к», для японца — «ць». Дарэчы, у японцаў побач з іерогліфамі і японскім алфавітам існуе таксама «ромадзі» — афіцыйна зацверджаны лацінскі алфавіт, прыстасаваны для напісання японскіх слоў. Тое ж самае зрабілі і кітайцы. «І толькі мы, беларусы, з братняю Руссю...», — усклікнуць, напэўна, чыноўнікі-пашпартысты. Але пачакайце, даражэнькія! На Беларусі невырашальная для вас праблема вырашана даўным-даўно. У нашай краіне побач з кірыліцай існуе так званая лацінка, на якой можна напісаць любое беларускае слова. Калісьці лацінкай пісалі В.Дунін-Марцінкевіч, Францішак Багушэвіч, Янка Купала. Газета «Наша ніва» друкавалася адначасова кірыліцай і лацінкай. Сёй-той піша беларускай лацінкай і зараз.

Так што адпаведным службовым асобам, якія займаюцца напісаннем тутэйшых імён і прозвішчаў, трэба звярнуцца да мовазнаўцаў, якія за лічаныя гадзіны навучаць карыстацца лацінскім алфавітам, прыстасаваным не да ангельскай, а да беларускай мовы.

**Уладзімір ШАТОН.**

БЕЛАРУСКІ ЧАС У ФОТААБ'ЕКТЫВЕ



Удзельнікі навукова-творчай экспедыцыі «Дарога да святыняў», прысвечанай святкаванню Дня беларускага пісьменства і друку, едучы па раней вызначаным маршруце, наведалі мястэчка Крошын ля Баранавіч, каб пакланіцца магіле Паўлюка Багрыма — самабытнага беларускага паэта-бунтара. Але гасцей і жыхароў Крошына проста ўразіла нечаканая вестка аб вандалізме на мясцовых могілках: пастаўлены тут пяць гадоў таму медны помнік Багрыму разрабаваны, з надмагілля зніклі выкаваныя з медзі кветкі. Заўважым, што баранавіцкая пракуратура нават не завяла крымінальную справу па факту дзікага глумлення над гэтай гістарычнай святыняй, якая па праву адносіцца да нацыянальнай культурнай спадчыны Бацькаўшчыны.

**На здымку**: удзельнікі экспедыцыі «Дарога да святыняў» на апаганенай магіле П.Багрыма.

**Фота Аркадзя МІКАЛАЕВА, Белінфарм.**

АЛЕ!

# ЭСЭСЭРАЎЦЫ ПРЫВЫКЛІ НЕ САРОМЕЦЦА І БРАЦЬ НАХРАПАМ

Не ўтаймоўваюцца сілы эсэсэраўскага камуністычнага рэваншу. Апантаныя «вечна ўчарашнія», якім карціць у поўным аб'ёме займець колішнія прывілеі, патрабуюць увесці дзяржаўнае двухмоўе, перагледзець (на карысць, вядома ж, камуністычнай) дзеючую нацыянальную сімволіку. Адзін раз патрабуюць ад імя ДСПС, другі — ад імя ветэранаў (зразумела, зноў жа «сваіх» ці «нашых») альбо ад «Саюза афіцэраў...» Беларусі, бачыце. А то распаўсюджваюць свой лямант ад так званага «народнага руху» зноў жа... Беларусі. Народнага? Беларусі? Здаецца, абсурд поўны. Але гэта «ўчарашніх» не бянтэжыць: яны прывычныя хаваць сваё аблічча падобным чынам. Вось нават ужо і сакратар беларускіх камуністаў не вытрымаў і напісаў у «Народнай газеце» — якія там «таварышы» дзейнічаюць, а ім хоць бы што. Асабліва ўражвае гэтае іх патрабаванне змяніць дзяржаўную сімволіку, бо яе, быццам бы, мы павінны саромецца, таму што скарыстоўвалася нейкім паліцэйскім фарміраваннем у часе гітлераўскай акупацыі.

А калі ў дзень 50-годдзя вызвалення Беларусі ад гітлераўскіх захопнікаў чырвоным ветэранам і камсамольцам удалося не дапусціць да абеліска Перамогі ветэранаў і нават стваральнікаў гэтага абеліска пад дзяржаўным бел-чырвона-белым сцягам, на што гэта падобна?

«Наша слова» пісала аб падзеях у той дзень на плошчы Перамогі і ў скверы імя Янкі Купалы. Але аўтар зацемак Ірына Крэнь не згадала, што сцяг падкрэслівае і паказвае толькі нацыянальнасць вайсковага злучэння ці згуртавання людзей, што не бывае асаблівага флага для здраднікаў калабарантаў, але і злучэнняў НКВД, якія расстрэльвалі нявінных пад тымі ж чырвонымі зоркамі, пад якімі войскі маршала Жукава бралі Берлін.

Я хацеў бы развіць гэтую тэму на прыкладзе Францыі, дзе камуністам у галаву не прыйшло б патрабаваць змены дзяржаўных сімвалаў толькі таму, што ўрад Вішы супрацоўнічаў з немцамі і нават ваяваў супраць альянтаў і вызваленчых сіл «Свабоднай Францыі» пад кіраўніцтвам генерала дэ Голя.

Многія, хто спецыяльна не вывучаў гэтую справу, лічаць, што французы ў 1940 годзе здаліся гітлераўцам, утварылі на поўдні Францыі калабаранцкі ўрад у Вішы і сядзелі ціха да 1944 года. Але гэта не так: урад Вішы меў заморскія тэрыторыі, якія таксама бараніў ад саюзнікаў і сіл генерала дэ Голя, меў паветраныя і марскія сілы пад нацыянальным бела-сіне-чырвоным сцягам Францыі ў Сірыі, пасля перамогі альянтаў, войскі Вішы не далучыліся да дэ Голя і адправіліся на радзіму пад сцягам Францыі. І войскі дэ Голя дзейнічалі пад тым жа штандарам. У любым выпадку ў Парыж летам 1944 года яны ўваходзілі пад бела-сіне-чырвоным сцягам Францыі. А падчас змагання французаў з французамі сілы свабоднай Францыі ўжывалі так званы Латарынгскі крыж, які і малявалі на сваіх аўтамашынах, танках і г.д. Аб гэтым сведчаць «Ваенныя мемуары» дэ Голя.

Чым гэта адрозніваецца ад Беларусі ў гады вайны? Хто бараніў уладу саветаў, быў па адну старану (у лесе), хто не хацеў бараніць калгасы і ссылкі, арышты нявінных у мірны час, быў пад нацыянальным сцягам у гарадах і вёсках. Ёсць аналогія з Францыяй, дзе жаўнеры, падначаленыя камандаванню Вішы, на поўным сур'ёзе змагаліся з англічанамі і войскамі «Свабоднай Францыі» дэ Голя. Вось толькі адзін прыклад змагання за порт Дакар, які англічане з дапамогаю сіл дэ Голя мелі надзею лёгка нейтралізаваць: «...берагавыя батарэі Дакара адкрылі беглы агонь па караблях англічан і свабодных французаў (войсках дэ Голя. — А.Б.)... англічане, практычныя людзі, не маглі зразумець прычыны таго, чаму ўлады, флот і войскі Дакара змагаюцца з такой апантанасцю са сваімі суайчыннікамі і іх саюзнікамі, у той час калі Францыя знаходзіцца пад пятою захопнікаў...» (с. 153).

Ну, чым не сітуацыя супраціўлення БКА, з аднаго боку, і савецкіх партызан, з другога? Розніца толькі ў тым, што нацыянальныя сілы Літвы, Латвіі, Беларусі выступалі пад нацыянальнымі сцягамі, а савецкія партызаны — пад чырвонымі. А ў Францыі такога не было: і адна старана, і другая мелі адзін і той жа — нацыянальны.

Як вядома, Рэспубліка Малдова прыняла зараз гістарычны румынскі сцяг. А румыны не лепшым чынам вызначыліся ў стэпах пад Сталінградам падчас апошняй сусветнай вайны. Але наш Прэзідэнт будзе схіляць галаву перад гэтым сцягам, калі прыедзе ў Кішынёў. Зрэшты ён зробіць тое самае і ў Германіі, дзе сцяг астаецца нязменным з часоў Бісмарка. Дарэчы, як схіляў галаву перад сцягам Расіі. Схіліць ён галаву і перад сцягамі Латвіі, Літвы і Эстоніі, калі паедзе туды, нягледзячы на тое, што камуністы лічаць нацыянальна свядомых латышоў і эстонцаў здраднікамі «савецкае радзімы» і калабарантамі з акупантам. Але ў Літве нікому і ў галаву не прыйдзе сцвярджаць, што літоўцы павінны саромецца свайго сцяга таму, што нейкі батальён пад такім сцягам прымаў удзел у карных акцыях пад Слуцкам. Бо літоўскі сцяг таго аддзела ці батальёна вызначыў нацыянальную прыналежнасць часці, а не яе карны характар. Тое самае з уласаўцамі. Трохкаляровы сцяг, які яны ўжывалі і які зараз з'яўляецца дзяржаўным сцягам *Расіі, не азначаў* здрадніцтва ці калабарацыю з немцамі, як спрабуюць паказаць беларускія (а ці беларускія?) камуністы ў адносінах да нашага сцяга, а зноў жа азначаў нацыянальную прыналежнасць войска. Таму казакі пры царызме, падчас грамадзянскае вайны, падчас нямецкай акупацыі (яны змагаліся з партызанамі ў аколіцах Нясвіжа) і зараз над Церакам носяць такі с[illegible] трохкаляровы значок на галаўных уборах, і ніякі Зюганаў не запатрабуе змены гэтага сімвала толькі таму, што казакі прыслужвалі немцам, помсцячы бальшавікам за вынішчэнне казацтва. Дык што, таварыш Чыкін з Вазьняком разумнейшыя за Зюганава ці больш нахабныя, маючы надзею на замбіраванасць беларусаў іх прапагандай? Але я ўсё ж маю надзею на тое, што першы Прэзідэнт Беларусі, які дакладна чытае ўсе беларускія газеты, уважліва прачытае і гэтую маю зацемку, узважыць мае доказы.

**Аляксандр БАХАНЧЫК, сын Язэпа.** Нясвіжчына.

У ГАЗЕТАХ

# «БЕЛАРУСКАЯ МОВА: НА КРУТЫХ ПАВАРОТАХ ГІСТОРЫІ»

У ГАЗЕТАХ

Пад такой назвай менская гарадская газета дэмакратычнага накірунку «Добры вечар» надрукавала (№ 184) вялікі артыкул вядомага навукоўца, доктара гістарычных навук Леаніда Лыча.

Аўтар адзначае, што ў дадзяржаўны перыяд для той мовы, якая паступова фарміравалася на нашай зямлі, найбольш характэрнымі лінгвістычнымі асаблівасцямі сталі: аканне і яканне, дзеканне і цеканне, прыстаўное «в» перад галоснымі (вокны, возера), кароткае (нескладовае) «ў» пасля галосных і некаторыя іншыя ўсталяваныя адметнасці. Пазней, з утварэннем Вялікага Княства Літоўскага, дзе значна пераважала славянскае насельніцтва, якое доўгі час захоўвала за сабой старажытныя назвы «рус», «русіны», «руськія», мова нашых продкаў стала ў Княстве самай распаўсюджанай і, натуральна, — дзяржаўнай, што і было замацавана ўжо ў Статуце ВКЛ 1566 года. Нават крымчакі-мусульмане, якія стала аселі ў Княстве, з сярэдзіны XVI стагоддзя пачалі перакладаць на старабеларускую мову свае рэлігійныя кнігі, у тым ліку і Аль-Кітаб — тлумачэнне свяшчэннага Карана.

Л.Лыч падкрэслівае, што ўлады ВКЛ вельмі ўважліва сачылі за моўнай сітуацыяй у краіне. У прыватнасці, яны неаднойчы выказвалі незадаволенасць, што ў каталіцкай царкве Княства пацiху пашыраецца лацінская мова, а ў праваслаўнай — стараславянская. Аўтар лічыць таксама, што часы існавання Рэчы Паспалітай (1569—1795 гады) — адны з самых цяжкіх для беларускай культуры і мовы, бо мова пад магутным націскам паланізацыі тады крок за крокам страчвала свае грамадскія пазіцыі і амаль цалкам прымусова выводзілася з афіцыйнага ўжытку. З анексіяй беларускіх зямель суседняй Рускай дзяржавай (падзелы Рэчы Паспалітай) паланізацыя на першых парах, на думку вучонага, яшчэ больш пасілілася. А пасля задушэння царызмам вызваленчых паўстанняў 1830—1831 гадоў і, асабліва, 1863 года яна саступіла тут месца татальнай русіфікацыі, якая правіла баль літаральна ва ўсіх сферах жыцця.

Аўтар аналізуе таксама станоўчы ўплыў на развіццё нашай нацыянальнай культуры палітыкі беларусізацыі 20-х гадоў, заўважаючы, што, на жаль, трыумфальнае шэсце роднага слова на сваёй адвечнай гістарычнай тэрыторыі аказалася вельмі кароткатэрміновым. Пераходзячы да сучаснага стану матчынай мовы, аўтар робіць выснову: захаванне беларускай культуры і мовы — найважнейшая агульнаславянская праблема, у вырашэнні якой найбольшыя абавязкі гісторыяй ускладзены на яе непасрэдных носьбітаў — беларусаў. Л.Лыч на заканчэнне выказвае слушнае і зразумелае пажаданне: хацелася б, каб прадстаўнікі іншых народаў, што жывуць на нашай зямлі, ні пры якіх абставінах не ўзнімалі шкодных і небяспечных рухаў за ўвядзенне ў рэспубліцы афіцыйнага двухмоўя. На беларускай тэрыторыі не можа быць ніякай іншай дзяржаўнай мовы, акрамя беларускай!

# «БЕЛАРУСКУЮ ВЁСКУ» Ў ЛОНДАНЕ ВЕДАЮЦЬ АНГЛІЧАНЕ

Гэтая публікацыя з'яўляецца працягам інтэрв'ю карэспандэнта «Нашага слова» са студэнткамі Лонданскага месіянерскага інстытута Ірынай Дубянецкай і Каралінай Мацкевіч. Першая частка інтэрв'ю была надрукавана ў № 39 «Нашага слова» пад назвай «Беларусаў як народ сфармавала хрысціянства».

Тэмай другой гутаркі стаў лёс беларускай эміграцыі ў Вялікай Брытаніі.

**— Якой убачылі вы краіну, у якой цяпер жывяце, — Вялікую Брытанію?**

**К.М.**: Нашы турысты, трапіўшы ў чужую краіну, захапляюцца ўсім: ад архітэктуры да ўзроўняў абслугоўвання. Але ж мы на нейкі час зрабіліся жыхарамі Англіі і таму, калі параўноўваем яе з Беларуссю, дык у іншым аспекце. Напрыклад, значнае падабенства можна ўбачыць паміж станам нацыянальных рухаў — як Вялікай Брытаніі, так і Беларусі.

**І.Д.**: Справа ў тым, што ірландцы, валійцы, шкоты — карэнныя жыхары выспаў — па паходжанні кельты ў адрозненне ад ангельцаў, блізкіх да германцаў. У іх іншыя мовы, іншыя культуры, іншыя традыцыі. Але развіццё гісторыі прывяло да таго, што яны ў значнай ступені асіміляваліся. Ангельская мова была ў Вялікай Брытаніі дзяржаўнай, ангельская культура была дамінантай, і гэтыя тры народы англізаваліся вельмі моцна. Але цяпер у Валіі існуе моцны рух за нацыянальнае адраджэнне. Шмат што мяняецца. Цяпер дарожныя шыльды там афармляюцца па-валійску, на мове, якая вельмі значна розніцца ад ангельскай. Валійская мова выкладаецца ва ўсіх школах. Увогуле, Валія — вельмі адметны рэгіён. Там дагэтуль захаваліся вёскі, жыхары якіх не разумеюць ангельскай мовы і гавораць толькі сваёй. У Валіі жыве традыцыя паэтычных спаборніцтваў, якія праводзяцца штогод. Іх удзельнікі — барды — чытаюць свае творы, напісаныя адметным валійскім вершам, і потым сярод іх вызначаюцца пераможцы. Гэтыя святы збіраюць вялікую колькасць удзельнікаў і гледачоў. Ірландыя змагаецца па-свойму. Гэты рух там мае больш палітычную і рэлігійную афарбоўку, бо ірландцы — каталікі ў адрозненне ад пратэстантаў-ангельцаў. Ірландцы вельмі моцна трымаюцца сваёй культуры, але гэтая культура практычна англамоўная. Горшая сітуацыя ў Шкоцыі. Там захаваліся толькі асобныя селішчы на выспах, дзе людзі карыстаюцца мовай шкотаў — гэлік. Гарады даўно сталі англамоўнымі.

Увогуле, сітуацыя нагадвае нашу. Адрозненне ў тым, што гэтыя нацыянальныя рухі там мацнейшыя, чым наш, беларускі, а дзяржаўная палітыка адназначна скіравана на адраджэнне і замацаванне нацыянальных моў, мясцовых культур. Тут зноў жа можна згадаць ірландцаў, якія маюць вельмі багаты музычны фальклор. Большасць яго твораў была калісьці перакладзена на ангельскую мову і стала часткай песеннай культуры ангельскага народа. Цяпер гэтыя песні перакладаюцца назад, на мову ірландцаў. На гэлік існуе цэлая літаратура, на гэтай мове паралельна з ангельскай перадаюцца віншаванні, якія гучаць у агульнанацыянальных тэлепраграмах у дні святаў. Усё гэта — вынік моцнага ўплыву тамтэйшых адраджэнскіх рухаў. Але — тут зноў можна правесці паралель з Беларуссю — падобныя рухі і там з'яўляюцца пераважна культурніцкімі — палітычны існуе толькі ў Ірландыі.

**— А беларускае асяроддзе — як існуе яно?**

**К.М.**: Мы жывём у Лондане якраз там, дзе яно сканцэнтравана — у Фінчлі. У беларускіх колах гэта вядомы раён, бо менавіта там знаходзіцца беларускі цэнтр — яго называюць жартам беларускай вёскай. Гэта чатыры дамы, калісьці купленыя беларусамі-эмігрантамі. У адным з іх тады заклалі уніяцкую капліцу святых Пятра і Паўла, у другім знаходзіцца беларуская бібліятэка імя Францішка Скарыны, утвораная Згуртаваннем беларусаў Вялікай Брытаніі. Бібліятэкарам у ёй на працягу ўжо пятнаццаці гадоў з'яўляецца а.Аляксандр Надсан. Яна — цэнтр, у якім на свае сходы і імпрэзы збіраюцца сябры ЗБВБ, і яна ж — цэнтр Англа-беларускага таварыства. Штомесяц Таварыства ладзіць там лекцыі беларускай тэматыкі, якія чытаюць як ангельцы, так і беларусы, пасля адбываюцца таварыскія вячэры. Акрамя таго, беларуская вёска з'яўляецца яшчэ і рэлігійным цэнтрам. Адзін з яе чатырох дамоў называецца Домам марыянаў, бо там калісьці былі беларускія манахі-марыяне. Іх ужо не засталося, і цяпер гэты дом належыць беларускай каталіцкай царкве ўсходняга абраду. Там знаходзіцца капліца, у якой два разы на дзень адбываецца служба. Асабліва шмат людзей туды прыходзіць па нядзелях і па святах. Хаця сама каплічка маленькая, і таму дваццаць чалавек для яе ўжо шмат.

Тым не менш месца гэтае ў Лондане дастаткова вядомае. Лонданцы ведаюць, што гэта ўсходняя царква, што тут моляцца мясцовыя беларусы. Часам набажэнствы наведваюць і ангельцы — больш з цікаўнасці, бо нічога не разумеюць у службе, якая вядзецца па-беларуску.

**І.Д.**: Асабіста для нас вельмі важным з'яўляецца тое, што, жывучы там, мы ўжо два гады «пражываем» літургічны год. Кожны наш дзень у Лондане пачынаецца са святой літургіі, штовечар мы збіраемся ў капліцу на вячэрню. У нашае жыццё ўвайшлі ўсе царкоўныя святы. І мы іх адзначаем адпаведна беларускай царкоўнай традыцыі. Айцец Аляксандр і другі святар — айцец Кастусь Маскалік — вельмі добрыя захавальнікі гэтых традыцый. Яны памятаюць іх з часу жыцця тут, у Беларусі. Увогуле, у асяроддзі беларусаў Лондана вельмі добра захоўваюцца сямейна-царкоўныя традыцыі.

**— Якія людзі ўтвараюць беларускі Лондан?**

**І.Д.**: Яго ўтварае не толькі старая эміграцыя. Эмігранты ваеннага часу — гэта старыя людзі. Іх становіцца ўсё меней. Яны маюць пераважна змешаныя шлюбы, так што дзеці звычайна асімілююцца. Бывае, што дзеці з эмігранцкіх сем'яў могуць свабодна гаварыць па-беларуску, яны адчуваюць, што маюць іншыя карані, і цікавяцца імі — альбо не цікавяцца: усё залежыць ад чалавека. Але за апошнія гады беларускае асяроддзе ў Лондане павялічылася. Яго ствараюць людзі, якія паехалі вучыцца на Захад, зарабляць ці прыехалі сюды па нейкіх сваіх прыватных справах. Такіх людзей няшмат, але яны ёсць. Гэта асобы звычайна маладзейшага ўзросту, якія не маюць дачынення да старой эміграцыі. Пераважная іх большасць гуртуецца вакол нашага цэнтра. Тут яны знаёмяцца, прыходзячы на агульныя імпрэзы Згуртавання беларусаў Вялікай Брытаніі, буйнейшыя з якіх — святы ўгодкаў Дня незалежнасці — 25 сакавіка і ўгодкаў Слуцкага паўстання.

**К.М.**: Тыя, што прыехалі, шукаючы палітычнага прытулку, звычайна далёкія ад беларускай справы. Сёння яны тут, заўтра могуць з'ехаць у Амерыку ці куды яшчэ. Гэта хутчэй савецкія людзі, і беларушчынай яны цікавяцца настолькі, наколькі ім гэта патрэбна — падтрымліваюць сувязь з цэнтрам, каб чытаць перыёдыку, мець проста чалавечыя кантакты. Бо ангельцы вельмі незалежныя людзі, і эмігранту адчуць сябе сваім у іхнім асяроддзі вельмі цяжка. Людзей, аб якіх я гавару, у Фінчлі круціцца нямала, і ў беларускі цэнтр яны прыходзяць хутчэй з нейкіх практычных, чым духоўных патрэб.

Кажучы пра сам беларускі цэнтр, трэба згадаць, што айцец Аляксандр пры дапамозе ангельцаў аказвае вялікую дапамогу нашым суайчыннікам, наладжваючы праз мясцовыя дабрачынныя арганізацыі адпачынак у Англіі дзяцей з забруджаных радыяцыяй рэгіёнаў Беларусі. Праўда, такая далёкая дарога вельмі цяжкая, і таму моцна хворым дзецям яна можа хутчэй пашкодзіць, чым дапамагчы. Але ж тым, стан здароўя якіх лепшы, побыт тут і харчаванне чыстай ежай ідуць на карысць.

**— Але ж тыя, якіх часам называюць эканамічнымі мігрантамі, звычайна далёкія ад нацыянальных спраў...**

**І.Д.**: Так, вельмі часта бывае, што такія людзі, прыехаўшы сюды, называюць сябе рускімі. І па-беларуску яны спрабуюць гаварыць, толькі трапіўшы ў спецыфічную атмасферу, якая тут існуе. Нярэдка здараецца так, што тыя, хто прыязджае сюды з Беларусі на кароткі час па справах і трапляе да нас у хату, потым кажуць, што галоўным вынікам іхняга візіту ў Англію было тое, што яны адкрылі ў сабе здольнасць гаварыць па-беларуску.

**— А якія кантакты мае беларуская супольнасць з ангельцамі?**

**К.М.**: Ужыцці «беларускай вёскі» ў Лондане бярэ ўдзел нямала «збеларушаных» ангельцаў. Іх ведаюць і ў Менску — Гая Пікарду — брэтонца з пашпартамі ангельскім, французскім і БНР, даследчыка беларускай царкоўнай музыкі; прафесара ўкраінскай мовы Лонданскага універсітэта Джыма Дынглі, прафесара Арнольда Макмілана, перакладчыцу Веру Рыч ды іншых.

**— Беларускія эмігранты, з'яўляючыся часткай грамадства, аказваюць на яго нейкі ўплыў?**

**К.М.**: Яны не з'яўляюцца буйнымі бізнесменамі, выдатнымі палітыкамі, не займаюць нейкіх высокіх дзяржаўных пасад. Гэта людзі пераважна сярэдняга слоя. І ўплыў іх на асяроддзе выглядае часам трохі нечакана. Так, напрыклад, у лонданскім раёне Фінчлі ёсць такі паб — невялікая карчма, — якая называецца «Торынгтон». Дзякуючы таму, што побач знаходзіцца беларускі цэнтр і паб часта наведвалі беларусы, карчмар-шкот вывучыў некалькі слоў па-беларуску, каб лягчэй было абслугоўваць кліентаў. У «Торынгтоне» вельмі часта можна было сустрэць людзей з беларускага асяроддзя — Гая Пікарду, старых і новых эмігрантаў, гасцей з Беларусі, такіх, як Адам Мальдзіс, ці канадца Кастуся Акулу. Гэтая традыцыя цяпер трохі заняпала.

**— Як успрымаюцца беларускай эміграцыяй Англіі падзеі ў Беларусі?**

**І.Д.**: Трэба зразумець: менавіта беларускасць стала прычынай выезду з радзімы многіх гэтых людзей. Тут яны сталі сваімі, уладкавалі жыццё, сваё і сваіх дзяцей, але мноства з іх дагэтуль жыве Беларуссю. І таму вялікім расчараваннем для іх быў вынік прэзідэнцкіх выбараў. Ігнараванне першым Прэзідэнтам дзяржаўнай мовы, імкненне яго да злучэння з Расіяй, ягоная арыентацыя на Маскву... Яны жывуць надзеяй на незалежную Беларусь, спадзяюцца, што яна будзе. Але тое, што адбываецца, імі разглядаецца як паварот да горшага.

**— Апошнім часам цікаўнасць беларусаў да сваіх суайчыннікаў за мяжой узрасла. Але наколькі адпавядае рэальнасці вобраз беларускай эміграцыі, які ствараюць сродкі масавай інфармацыі — і дзяржаўныя, і незалежныя?**

**І.Д.**: Цікаўнасць, наколькі я ведаю, існавала заўсёды. Але нейкія кантакты паміж эміграцыяй і ўрадам Беларусі пачалі наладжвацца толькі апошнім часам. І ў Лондане ўся беларуская эміграцыя — і старая, і маладая — вельмі станоўча ўспрыняла дзейнасць Краўчанкі — былога міністра замежных спраў. Менавіта дзякуючы яму і ягоным намаганням у Англіі ўзнікла беларускае прадстаўніцтва. Гэта унікальны выпадак — тое, што беларускае пасольства і консульства маюць уласны добры будынак у цэнтры сталіцы. Бо, напрыклад, у Нямеччыне ці ў Францыі там, дзе знаходзіцца беларускі пасол, знаходзіцца і пасольства. Гэта значыць, ён «з пячаткай у кішэні» жыве ў гатэлі ці ў прымах ва ўкраінцаў, якія, у сваю чаргу, туляцца ў пасольстве Расіі. У Лондане дзякуючы добрым адносінам, якія склаліся паміж прадстаўніком беларускага ўрада і тутэйшымі беларусамі, адзін з іх — Ян Дамінік, уладальнік дома — ахвяраваў яго беларускай амбасадзе. І, між іншым, невядома, ці не зменіцца стаўленне да пасольства домаўладальніка ў выпадку, калі незалежная Беларусь ператворыцца ў частку Расійскай Федэрацыі.

**К.М.**: Што да ўяўленняў беларусаў аб эміграцыі... У свой час з Менску ў Лондан прыязджалі дзве групы для здымкаў дакументальных фільмаў аб іх земляках. Фільм, хаця і досыць спрэчны, зняты групай Шавялевіча, не выпусцілі на экран у Беларусі, хаця ён здымаўся на заказ Міністэрства замежных спраў. Я чула, што прычына адмовы была сфармулявана так: хто гэтыя людзі — старыя эмігранты? Ці можна іх паказваць, не праверыўшы іхнія біяграфіі ў КДБ? А раптам у іх нейкае падазронае мінулае? Гэты фільм існуе толькі на відэакасеце, якую яго ствара́льнікі пераслалі ў Англію. А аб выніках працы другой кінагрупы мы ні ў Менску, ні ў Лондане не чулі нічога.

**І.Д.**: Нехта ў Беларусі спадзяецца на ўдзел беларускай эміграцыі ў эканамічным і палітычным жыцці нашай краіны, нехта баіцца гэтага... Але ж трэба разумець: беларуская эміграцыя невялікая і ў Англіі, і па ўсім свеце. Як і паўсюль, эмігранты падзеленыя: у выпадку Англіі — на праваслаўных і уніятаў.

Беларусы Англіі — звычайныя людзі, гэта грамадзяне Вялікай Брытаніі беларускага паходжання. Іх мала. Калі, напрыклад, палякі ў Лондане маюць свой тэатр, бібліятэкі, некалькі цэнтраў, храмы, урэшце, проста кавярні, дзе стала гучыць польская мова, дык беларусы маюць, акрамя нашага цэнтра, пра які мы ўжо расказвалі, яшчэ «беларускі дом» на вуліцы Пэн Роўд — там жыве некалькі сем'яў новай эміграцыі. Старая беларуская эміграцыя захоўвае нейкія дакументы, сведчанні, традыцыі — гэта ці не асноўнае, чым яна можа дапамагчы радзіме. Гэта цудоўныя людзі, але неабходна памятаць: лёс і будучыня нашага краю вырашаецца тут, а не за мяжой.

**— І кім асабіста вы адчуваеце сябе. Можа, крыху эмігрантамі?**

**К.М.**: Мы — не эмігранты. Мы не шукаем за мяжой працы ці палітычнага прытулку. Наша мэта — вярнуцца дадому, каб працягнуць пачатую справу.

**Распытваў У.ПАНАДА.**

*У ГАЗЕТАХ*

# ПАД ГРЫФАМ «ЗУСІМ САКРЭТНА»

*У ГАЗЕТАХ*

«Настаўніцкая газета» (№ 77) надрукавала поўны тэкст ліста ад 11 чэрвеня 1928 года першага рэктара БДУ, акадэміка Уладзіміра Іванавіча Пічэты Наркамату асветы БССР, які, трапіўшы да тагачаснага сакратара ЦК КП(б) Беларусі В.Кнорына, быў дзесяцігоддзямі схаваны ў архівах пад грыфам «Зусім сакрэтна». Думкі вучонага, якія не згубілі сваёй вастрыні і злабадзённасці нават цяпер, суправаджаюць грунтоўныя і дасведчаныя каментарыі навуковага супрацоўніка Беларускага навукова-даследчага цэнтра дакументазнаўства, археаграфіі і архіўнай справы А.Геся. Дарэчы, сённяшняя актуальнасць ліста У.Пічэты была аператыўна заўважана і газетай «Літаратура і мастацтва» (№ 39), дзе ў рубрыцы «Часапіс» змешчаны кароткі пераказ прадмовы да першай публікацыі дакумента.

Знаёмства з яго зместам пераносіць нас у тую найскладанейшую палітычную атмасферу, ва ўмовах якой у БССР у 20-х гадах ажыццяўлялася палітыка беларусізацыі. У прыватнасці, мы яскрава бачым, як няпроста гэты працэс ішоў у БДУ, дзе ворагі беларушчыны разам з універсітэцкімі партфункцыянерамі (вядома, з падказкі ЦК) рабілі ўсё, каб лепшая вышэйшая навучальная ўстанова рэспублікі заставалася не беларускай. Хоць на словах кіраўнікі кампартыі БССР тады падтрымлівалі беларусізацыю, але на самай справе яны ўсяляк тармазілі практычную рэалізацыю гэтай палітыкі. Першыя спробы зрыву беларусізацыі ў БДУ былі зроблены яшчэ ў 1925—1926 гадах, калі частка выкладчыкаў сабатавала пераход на беларускую мову выкладання большасці гуманітарных дысцыплін. Праўда, тая спроба сарвалася. Але гэта не спыніла ворагаў беларушчыны. Неўзабаве У.І.Пічэта (дарэчы, не беларус, які тым не менш выдатна ўсведамляў неабходнасць росту нацыянальнай свядомасці нашага народа, вяртанне беларусаў да сваіх уласных каранёў і самабытных вытокаў) стаў падвяргацца адкрытым палітычным нападкам у друку. Рэктара БДУ абвінавачвалі ў нацыянал-дэмакратызме, у празаходняй агульнай арыентацыі. Праўда, усё згаданае толькі папярэднічала шырокай паліткампаніі барацьбы партыі з так званымі нацдэмамі, у выніку якой нашы лепшыя, найбольш таленавітыя і яркія прадстаўнікі творчай і навуковай нацыянальнай інтэлігенцыі аказаліся бязвінна рэпрэсіраванымі.

Асноўная думка У.Пічэты, выкладзеная ў лісце Наркамату асветы, гучыць так: «Беларускі універсітэт павінен быць беларускім!» Выступаючы палкім прыхільнікам беларушчыны, рэктар БДУ падкрэсліваў, што любое ігнараванне нацыянальнай мовы, нацыянальнай гісторыі беларусаў у навучальных установах ужо заўтра непазбежна абумовіць самыя негатыўныя з'явы ў жыцці рэспублікі. Але ці маглі ўсур'ёз прыслухацца да мужнага голасу гэтага сумленнага вучонага-гісторыка з высокім еўрапейскім аўтарытэтам партыйныя босы розных узроўняў? Адназначна — не, бо ў сваёй, з дазволу сказаць, дзейнасці яны без ваганняў кіраваліся толькі злачыннымі крамлёўскімі дырэктывамі.

Спадзяёмся, што самастойны роздум над зместам апублікаванага «Народнай газетай» ліста У.І.Пічэты шмат каму дапаможа спасцігнуць пачварную існасць сталінізму, рудаменты якога, на жаль, жывуць і сёння.

М.В.

## ГІСТОРЫЯ АЙЧЫНЫ — ВАЙСКОЎЦАМ

*Працягваем друкаваць раздзелы з новага вучэбнага дапаможніка для вайскоўцаў «Гісторыя Беларусі»*

*А.М.Літвін, Я.С.Паўлаў*

# БЕЛАРУСЫ: НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ І ТЭРЫТАРЫЯЛЬНЫЯ ВАЙСКОВЫЯ ФАРМІРАВАННІ

## (1917—1941 гг.)

Агульнавядома, што ніводная нацыя адна не ўстане дасягнуць незалежнасці без стварэння ўласных узброеных сіл. Нашы суседзі добра зразумелі гэтую ісціну яшчэ ў час Першай сусветнай вайны, калі ў жорсткім змаганні адраджалі сваю незалежнасць Польшча, Літва, Латвія. У той жа час пэўныя захады ў гэтым накірунку рабіліся і беларускімі нацыянальна свядомымі дзеячамі.

Больш акрэслена ідэя беларускага войска ўзнікла пад час пачатку развалу Расійскай імперыі вясной 1917 года, калі пачалі ўзнікаць гурткі беларускіх вайскоўцаў на розных франтах вайны. Адным з першых такі гурток узнік 8 мая 1917 г. у Рызе. Першапачаткова гэты рух накіроўваўся Беларускім Нацыянальным Камітэтам (БНК), па ініцыятыве якога і ўзнікла Беларуская Вайсковая Арганізацыя.

**ЗА ЛЕТА 1917 Г. НА ЎСІХ ФРАНТАХ УТВАРЫЛІСЯ ШМАТЛІКІЯ БЕЛАРУСКІЯ АСЯРОДКІ**. Асабліва масавы і легальны характар беларускі вайсковы рух прыняў пасля выдадзенага ў жніўні 1917 г. Часовым урадам дэкрэта, які дазваляў нацыяналізаваць тыя вайсковыя адзінкі рускай арміі, дзе большасць складалі прадстаўнікі нярускіх нацыянальнасцей: украінцы, беларусы, палякі, літоўцы і інш. Шырокі размах беларускага вайсковага руху патрабаваў пэўнай каардынацыі, выпрацоўкі сумеснай праграмы дзеянняў, стварэння кіруючых цэнтраў. Гэтыя задачы мог вырашыць толькі з'езд беларускіх вайскоўцаў, вострая неабходнасць якога паўстала ўжо восенню 1917 г. Але ж склікаць з'езд усіх беларускіх вайскоўцаў, якія былі раскіданы па розных франтах, было справай вельмі нялёгкай. Таму 18—22 кастрычніка 1917 г. у Менску адбыўся з'езд беларусаў-вайскоўцаў Заходняга фронту. На з'езд прыбылі і прадстаўнікі беларускіх вайсковых арганізацый 12-й арміі, Балтыйскага флоту і Румынскага фронту.

Па асноўным пытанні «Арганізацыя беларускага войска» з'езд вынес наступную рэзалюцыю: «З'езд... заклікае ўсіх сыноў Беларусі стаць грудзьмі на абарону сваёй зямлі і Расійскай федэратыўнай дэмакратычнай рэспублікі... Выходзячы з гэтага, з'езд лічыць утварэнне беларускага войска ў сучасны момант вельмі неабходным і неадкладным, дзеля чаго з'езд пастанаўляе:

1. Шляхам узгаднення з усімі вайсковымі арганізацыямі беларусаў усіх франтоў утварыць Цэнтральную Беларускую Вайсковую Раду (ЦБВР) у горадзе Менску.

2. Да часу яе ўтварэння з'езд даручае ствараемаму Выканаўчаму камітэту часовай Цэнтральнай Вайсковай Рады ажыццяўленне пастановы з'езда аб утварэнні Беларускага войска.

3. Арганізацыя Беларускага войска павінна праходзіць такім чынам, каб баяздольнасць армій на фронце не паслаблялася.

4. Штаты кадраў для ўтварэння Беларускага войска будуць рэкрутавацца з тых вайсковых часцей, якія найбольш укамплектаваны беларусамі.

5. Улічваючы тое, што толькі зямляцтва паміж афіцэрскім і салдацкім складам зможа ўнесці баявую еднасць і ўзаемны давер у войсках, з'езд лічыць мэтазгодным, каб увесь камандны састаў утвараемых часцей быў беларускім. Улічваючы вышэй адзначаныя падыходы па ўтварэнню Беларускага войска, з'езд звяртаецца да ўсіх беларусаў аб'яднацца вакол сваіх камітэтаў, каб ажыццявіць намечаныя планы».

З'езд утварыў Выканкам Часовай Цэнтральнай Вайсковай Рады (ВЧЦВР), у склад якога ўвайшлі 15 чалавек, у тым ліку: капітаны Е.Ярушэвіч, Адамовіч, ст.унтэр-афіцэр С.Рак-Міхайлоўскі, вайсковы фінансіст В.Захарка, штабс-капітан Бандарчык, прапаршчык Г.Красоўскі, малодшы унтэр-афіцэр Мамонька, яфрэйтар Шыла і інш.

Крыху пазней, у лістападзе—снежні, адбыліся з'езды вайскоўцаў-беларусаў Паўночнага, Паўднёва-Заходняга і Румынскага франтоў, якія адпаведна прайшлі ў Віцебску, Кіеве і Адэсе. З'езды абралі сваіх прадстаўнікоў у склад ЦБВР. Такім чынам быў утвораны своеасаблівы штаб Беларускага войска, які ўзначаліў Сымон Рак-Міхайлоўскі. У склад управы ўвайшлі таксама падпаручнік Кастусь Езавітаў (намеснік старшыні) і Васіль Захарка (скарбнік).

Выканкам ЦБВР у снежні 1917—лютым 1918 г. выдаваў свой друкаваны орган — газету «Беларуская Рада», якая шырока адлюстроўвала нацыянальна-кансалідацыйныя працэсы ў тагачасным беларускім грамадстве, асабліва сярод вайскоўцаў, імкненне беларусаў да нацыянальна-дзяржаўнага самавызначэння, стварэння ўласнага войска і інш. Газета выходзіла на рускай мове, але значная частка матэрыялаў друкавалася па-беларуску. Актыўнымі яе аўтарамі з'яўляліся Е.Ярушэвіч, К.Езавітаў, Г.Красоўскі, Ф.Шантыр, А.Уласаў, З.Бядуля, П.Бадунова і інш.

ЦБВР актыўна ўдзельнічала ў якасці аднаго з арганізатараў Усебеларускага кангрэса. У праекце рэзалюцыі ЦБВР па пытанні аб будучым грамадска-палітычным ладзе Беларусі гаварылася: аб'явіць Беларускую Дэмакратычную Рэспубліку як састаўную частку Федэратыўнай Расейскай Рэспублікі, стварыць часовую краёвую ўладу, прызначыць тэрмін склікання Устаноўчага сходу Беларусі, стварыць і паслаць беларускую дэлегацыю на мірную канферэнцыю, сфарміраваць нацыянальную армію.

Як вядома, у рэзалюцыі Усебеларускага кангрэса, які быў разагнаны бальшавікамі, упершыню адзначалася неабходнасць стварэння беларускай нацыянальнай арміі.

**СТВАРЭННЮ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ ВАЙСКОВЫХ АДЗІНАК НА ПЕРШЫМ ЭТАПЕ СПРЫЯЛА ТАКСАМА ПАЛІТЫКА ЦЭНТРАЛЬНЫХ БАЛЬШАВІЦКІХ УСТАНОЎ, ЯКІЯ НА ПРЫКЛАДЗЕ ФІНЛЯНДЫІ, УКРАІНЫ, ГРУЗІІ І ПОЛЬШЧЫ ПЕРАКАНАЛІСЯ, ШТО НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ РУХІ МАЮЦЬ КАЛАСАЛЬНУЮ СІЛУ**. І таму, як адзначаў К.Езавітаў, «шукалі спосабу... заўладаць беларускім рухам і накіраваць яго калі ўжо не цалкам на сваю карысць, дык прынамсі ў нейкае нейтральнае ручво».

Аднак на месцах сітуацыя ўтварылася іншая. Створаны пад час кастрычніцкага перавароту ў Менску Абласны Выканаўчы Камітэт Заходняй вобласці (Аблвыканкамзах), які складаўся, па словах Езавітава, «з расейскіх вайскоўцаў, якіх тады стаяла на Беларусі некалькі армій, з палітыканаў розных гатункаў і з латышскіх камуністаў, ...не вызнаваў ні правоў беларускага народа на нацыянальнае самавызначэнне, ні беларускай мовы, ні нават самога існавання беларусаў як народа і Беларусі як асобнае краіны. Гэты Аблвыканкамзах, на чале якога стаяў прапаршчык Мяснікоў (Мяснікіян), ішоў цалкам па шляхах старых расейскіх царскіх урадаўцаў-русіфікатараў».

Апошняя акалічнасць прыводзіла да таго, што паміж цэнтральнымі бальшавіцкімі ўстановамі і бальшавіцкай уладай на месцах ішлі вострыя спрэчкі па пытаннях тактыкі ў адносінах да беларускага пытання і асабліва стварэння вайсковых беларускіх фарміраванняў.

Цэнтральныя ўстановы ў Петраградзе і Стаўка Вярхоўнага галоўнакамандуючага прапаршчыка Крыленкі давалі на пэўных умовах дазвол на фарміраванне беларускіх вайсковых адзінак, а Аблвыканкамзах, наадварот, абяззбройваў іх.

31 студзеня 1918 г. газета «Советская правда» — орган выканкама Менскага Савета рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў — змясціла дэкрэт СНК Заходняй вобласці і фронту аб роспуску Беларускай Вайсковай Рады, а таксама зварот СНК да беларускага народа з «разоблачением контрреволюционных действий Белорусской рады». Гэтыя дакументы былі прыняты 30 студзеня, праз 5 дзён пасля арышту членаў ЦБВР і былі надрукаваны з яўнай палітычнай мэтай, каб скампраметаваць гэты орган беларускіх вайскоўцаў у вачах беларускага народа. Усё ж такі ён меў, відаць, аўтарытэт у людзей, калі бальшавікам прыйшлося фабрыкаваць кампрамат і звяртацца з адозвамі.

Плённая праца па стварэнню беларускіх вайсковых адзінак праводзілася ў 1917 — пачатку 1918 г. на Румынскім фронце, дзе меўся значны асяродак беларускіх вайскоўцаў, якія, знаходзячыся далёка за межамі Беларусі, марылі аб хутчэйшым вяртанні на радзіму. Якім жа чынам апынуліся беларусы ў Румыніі?

Як вядома, 4(17) жніўня 1916 года паміж дзяржавамі Антанты і Румыніяй былі падпісаны палітычная і ваенная канвенцыі. А яшчэ праз 10 дзён Румынія аб'явіла вайну Аўстра-Венгрыі. Штуршком для ўступлення Румыніі на баку Антанты ў вайну паслужылі паспяховыя дзеянні рускай арміі Паўднёва-Заходняга фронту пад камандаваннем генерала Брусілава. Да гэтага Румынія доўгі час вагалася, каму аддаць перавагу. І на тое ў яе былі вялікія прычыны. Узброеныя сілы Румыніі складаліся на той час з чатырох армій, якія налічвалі каля 600 тысяч чалавек.

Але ваенная фартуна не свяціла румынскаму каралю Фердынанду. У выніку жорсткіх чатырохмесячных баёў яго войскі пацярпелі паражэнне і амаль уся тэрыторыя Румыніі была занята германскімі войскамі. У такім становішчы расійскае кіраўніцтва вымушана было тэрмінова перакінуць сюды значную колькасць сваіх войск.

**ЯКІЯ Ж АБСТАВІНЫ ВЫКЛІКАЛІ З'ЯЎЛЕННЕ БЕЛАРУСКАГА ВАЙСКОВАГА РУХУ НА РУМЫНСКІМ ФРОНЦЕ?** Справа ў тым, што ні камандаванне фронтам, ні створаныя ў першыя дні пасля кастрычніцкага перавароту па загаду зверху ваенна-рэвалюцыйныя камітэты не падтрымалі перавароту. Армейскі камітэт 4-й арміі асудзіў бальшавіцкі захоп улады і выказаў гатоўнасць аказаць «самае моцнае процідзеянне паўстанню прадстаўленнем узброенай сілы».

Не прынялі перавароту і армейскія камітэты 9-й, 8-й і часткова 6-й армій.

Аднак бальшавіцкая агітацыя і прапаганда рабілі сваю справу. Таму працэс дэмаралізацыі армій фронту працягваўся. У гэтай сітуацыі камандуючы Румынскім фронтам кароль Фердынанд па намаганню саюзнікаў дазволіў фарміраваць нацыянальныя вайсковыя аддзелы.

Па рашэнню Беларускай вайсковай камісіі быў нацыяналізаваны 4-ы корпус, які да вайны доўга стаяў у Беларусі і складаўся амаль што з адных беларусаў. Корпус у сваім поўным складзе з усімі аддзеламі загадам па фронту быў абвешчаны Беларускім. Апрача 4-га корпуса, быў нацыяналізаваны Таўрагенскі пагранічны полк, які ўвесь складаўся з беларусаў. Загадам па фронту ён быў названы Беларускім Гусарскім Нацыянальным палком. Рабіліся захады аб перайменаванні ў Беларускую 41-ю пяхотную дывізію, якая да вайны стаяла ў Віцебску і Магілёве.

Былі аддадзены загады аб беларусізацыі таксама 43-й дывізіі, якая была далучана да 4-га армейскага корпуса, 26-га аўтабранявога аддзялення, 357-й Віцебскай і 401-й Менскай дружын.

Агульная колькасць беларускага войска на Румынскім фронце дасягала амаль 100 тысяч чалавек. Беларускія аддзелы былі прыведзены ў патрэбны вайсковы парадак. Беларуская вайсковая камісія пачала клапаціцца аб тым, каб вярнуць беларускія аддзелы на Бацькаўшчыну. Але Румынія раптам заключыла сепаратны мір з Аўстра-нямецкай кааліцыяй, паводле якога ўсе, так званыя рускія, аддзелы ў Румыніі павінны былі дэмабілізавацца, а ўсё вайсковае ўзбраенне пакінуць румынам.

Выкарыстаўшы адмову Троцкага падпісаць мірны дагавор, германскае камандаванне 16 лютага 1918 г. афіцыйна заявіла аб спыненні перамір'я і аднаўленні ваенных дзеянняў. 18 лютага германскія і аўстра-венгерскія войскі перайшлі ў наступленне на ўсім руска-германскім фронце.

У ноч з 18 на 19 лютага бальшавіцкія ўлады на чале з В.Ландэрам пакінулі Менск. У гэтых умовах Выканаўчы Камітэт Рады 1-га Усебеларускага з'езда 19 лютага выдаў загад аб пераходзе ўлады ў яго рукі. Для падтрымання парадку ў горадзе камендантам быў прызначаны К.Езавітаў.

**21 ЛЮТАГА ВЫКАНКАМ РАДЫ СТВАРЫЎ БЕЛАРУСКІ ЎРАД — «НАРОДНЫ САКРАТАРЫЯТ БЕЛАРУСІ»**. Аб гэтай гістарычнай падзеі абвясціла Першая Устаўная Грамата. Узначаліў урад Язэп Варонка. У гэты ж дзень нямецкія войскі ўвайшлі ў Менск. 24 лютага дэлегацыя ўрада (Я.Варонка, К.Езавітаў, А.Смоліч) наведала прадстаўніка нямецкай ваеннай улады ў Менску, каб засведчыць факт свайго існавання і выказаць сваё стаўленне да акупацыйных улад.

Аднак немцы надалі гэтаму факту мала ўвагі. 25 лютага яны прымусова выселілі Народны Сакратарыят з займаемага будынка. Нічога тут дзіўнага, бо Беларусь яшчэ не была абвешчана дзяржавай. І таму нямецкае кіраўніцтва разглядала яе часткай Расіі.

9 сакавіка адбылося ўрачыстае пасяджэнне Выканкама 1-га Беларускага з'езда. Да гэтага часу ён быў папоўнены прадстаўнікамі партый: сацыялістаў-рэвалюцыянераў, меншавікоў, Паалей-Цыёна і інш. Усяго ў Выканкам уваходзіла 71 чалавек. На гэтым пасяджэнні Беларусь была аб'яўлена Народнай Рэспублікай. А 25 сакавіка 1918 г. Беларуская Народная Рэспубліка была абвешчана незалежнай.

З першых дзён свайго існавання ўрад БНР меў намер сфарміраваць сваё войска. Але на шляху выканання гэтага намеру паўстала шмат цяжкасцей. Афіцыйна немцы не прызналі ўрада БНР і, натуральна, не былі зацікаўлены ў існаванні на захопленай імі тэрыторыі ўзброеных часцей такога ўрада. Ва ўрадзе БНР пасаду народнага сакратара па вайсковых справах займаў Кастусь Езавітаў. Перад ім стаяла задача правядзення работы сярод аддзелаў былой Цэнтральнай Беларускай Вайсковай Рады (ЦБВР) з мэтай стварэння з іх, а таксама з беларускіх вайсковых аддзелаў, якія меліся па-за межамі Беларусі, войска БНР.

Такім чынам, у 1918 годзе ўласнае войска пад час нямецкай акупацыі урад БНР стварыць не здолеў. З адыходам немцаў з Беларусі, а затым падзеннем пад польскім націскам Літоўска-Беларускай ССР, БНР аднавіла дзейнасць па фарміраванню беларускага войска. Гэтай справай у 1919—1921 гадах займалася Беларуская Вайсковая Камісія, якая была створана 22 кастрычніка 1919 г. загадам Начальніка Польскай дзяржавы Ю.Пілсудскага.

Нягледзячы на прыкметную актыўнасць Камісіі, арганізацыя беларускага войска рухалася марудна. Да лета 1920 г. пад эгідай Камісіі ўдалося скамплектаваць толькі адну роту ў Менску. Адной з прычын такога становішча было тое, што на польскай палітычнай арэне існавалі ўплывовыя сілы, не зацікаўленыя ў набыцці народамі Беларусі, Літвы і Украіны якой-небудзь самастойнасці. Іх палохала перспектыва ўмацавання беларускай дзяржаўнасці ў выніку стварэння беларускага войска. У выніку, з вясны 1920 г. БВК была фактычна адхілена ад удзелу ў фарміраванні беларускіх вайсковых адзінак. Згодна з распараджэннем польскіх улад гэтае права стала належаць выключна Вярбовачнаму інспектару Цывільнага ўпраўлення Усходніх зямель. У ліпені 1920 г. тэрыторыя Беларусі была вызвалена ад польскіх войск. Дзейнасць БВК (у іншым складзе) аднавілася ў г.Лодзь у кастрычніку 1920 г. і працягвалася да Рыжскага міру.

22 студзеня 1920 г. у склад беларускага войска быў залічаны атрад генерала Станіслава Булак-Булаховіча, які налічваў каля 2 тысяч чалавек. У сакавіку 1920 г. атрад перадыслацыраваўся з Эстоніі ў Брэст, ён стаў лічыцца беларускай вайсковай адзінкай у складзе польскага войска. Пад час восеньскага наступлення 1920 г. польскай арміі Булак-Балаховіч кіраваў так званай Рускай добраахвотнай арміяй. Пасля заключэння 12 кастрычніка 1920 г. Рыжскага прэлімінарнага (папярэдняга) міру войска Булак-Булаховіча рушыла вызваляць Беларусь. Заняўшы ў лістападзе 1920 г. Тураў, а затым Мазыр, Булак-Балаховіч аб'явіў сябе начальнікам Беларускай дзяржавы. Амаль адначасова з гэтым пачалося Слуцкае паўстанне. Чырвоная армія разграміла войскі Булак-Балаховіча і слуцкіх паўстанцаў. Рэштка гэтых беларускіх вайскоўцаў перайшла ў Польшчу, дзе была інтэрніравана палякамі.

Беларускія аддзелы існавалі таксама ў 1919—1923 гг. у Літоўскай арміі. Найбольш значнай вайсковай адзінкай з'яўляўся 1-ы пяхотны Гародзенскі полк, які быў створаны ў студзені—лютым 1919 г. У час польска-літоўскай вайны 1920 г. полк жорстка супрацьстаяў палякам. Толькі аднаму батальёну пад камандаваннем палкоўніка Успенскага ўдалося прабіцца ў Коўню. Пры батальёне выдаваўся часопіс «Сьветазар». На Дзвінскім фронце ў складзе літоўскай арміі змагаўся асобны беларускі батальён пад камандаваннем маёра Ружанец-Ружанцова. Батальён выдаваў часопіс «Варта Бацькаўшчыны».

Захапіўшы ў кастрычніку 1917 г. уладу, бальшавікі рабілі ўсё магчымае, каб яе ўтрымаць. З першых жа дзён з цвёрдых сваіх прыхільнікаў фарміраваліся «рэвалюцыйныя» і «сацыялістычныя» атрады і палкі. Новая ўлада абяцала хутка скончыць вайну, вярнуць салдат у родныя сем'і, да ўласнай гаспадаркі. Гэта імпанавала настрою вайскоўцаў і ў пэўнай меры абумоўлівала іх паводзіны.

Вынікам прапагандысцкай дзейнасці бальшавікоў Беларусі і Заходняга фронту з'явілася тое, што на іх бок у канцы снежня 1917 г. перайшло каля 15 палкоў пяхоты і 3 артылерыйскія брыгады.

У студзені 1918 г. Саветы і рэўкомы пачалі адыходзіць ад першапачатковай ідэі агульнага ўзбраення працоўных мас і стварэння пастаяннага рэвалюцыйнага войска пры добраахвотным прынцыпе камплектавання часцей і падраздзяленняў. 15(28) студзеня 1918 г. Ленін падпісаў дэкрэт СНК аб арганізацыі на добраахвотных пачатках Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі (РСЧА).

*(Працяг будзе.)*

Мікалай КРЫЎКО

# СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

**ПАСПА́ЦЬ** (упасці на некаторы час у сон) – *Цяпер бы паспаць з гадзінку, – пацягнуўшыся, сказаў Сяргей* (Машара). *Перакусіўшы, выпіўшы наліўкі, Альшэўскі трохі паспаў, затым да вечара цюкаў сякерай, расколваючы бярозавыя круглякі* (Навуменка), **СПАЧЫ́ЦЬ** размоўнае *А там горац, пакінуўшы [статак], Лёг на ўзвышшы спачыць да зары* (Гурло). *Ад зморы соладка спачыну, На сене свежым задрамлю, Як неба ў чорную аўчыну Зашые сонную зямлю* (Чарот), **ПАДРАМА́ЦЬ** *Свідраль меў звычку пасля работы перапрануцца ў піжаму і, пакуль жонка згатуе вячэру, паляжаць з газетай на мяккай канапцы, крыху падрамаць* (Дуброўскі). *Зліпаліся вочы. Трэба было хоць крыху падрамаць, каб заўтра з новымі сіламі ўзяцца за работу* (Мяжэвіч), **ЗАДРАМА́ЦЬ** (заснуць лёгкім сном) *Алесь сочыць за сваімі думкамі, свядома кіруе імі, каб не задрамаць, не заснуць* (Галавач). *Стомленая ад бяссоннай ночы, старая задрамала* (Гурскі), **ПРЫДРАМНУ́ЦЬ** разм. і **ПРЫДРАМА́ЦЬ** разм. (заснуць неглыбокім сном на кароткі час) *Чаму ў першы момант [Зайцаў] не разабраў, адкуль ехалі, цяжка было сказаць, мабыць, усё-такі прыдрамнуў, хоць і ўсімі сіламі не паддаваўся сну* (Кулакоўскі). – *Чалавек можа прыдрамнуць, недачуць.. уночы, а гэты вартаўнік [аўчарка] – абсалютна верная справа* (Паслядовіч). *Касцы доўга не ляжалі, хоць хацелася прыдрамаць* (Колас). *Раніцай, пакуль не прыйшла машына, Антон здаў змену і прыдрамаў у вагончыку на працёртай канапцы* (Даніленка), **ПРЫМГНУ́ЦЬ** і **ЗАМГНУ́ЦЬ** разм. (заснуць ненадоўга лёгкім сном) *Паабедаўшы, Шалюта лёг на хвілінку прымгнуць, і якраз у гэты час прыехаў Варановіч* (Дуброўскі). *Веры і самой трэба было б замгнуць на гадзінку, ды лёс маленькага так усхвалявў яе, што яна не магла супакоіцца* (Кулакоўскі), **ХРАПЯНУ́ЦЬ** і **ХРАПАНУ́ЦЬ** *разм.* (паспаць нядоўга, але добра, моцна) *Храпянуць з гадзіну. Цяпер бы выкупацца ды храпануць з гадзінку ў цяньку* (Машара). – *Параўнайце:* **С п а ц ь.**

**ПАСПЕЦЬ** разм. (за кім-чым; звычайна з адмоўем *не* або з прыслоўямі *ледзь, ледзьве* і пад.: накіроўваючыся за кім-, чым-н. у руху, у працы і пад., не адстаць ад яго) *[Шаевічу] і сапраўды ў такім адзенні цяжка было паспець за мной* (Сабаленка). *За ўсім адразу не паспееш, Жыццё, як воблачка, сплыве* (Бураўкін), **УСПЕ́ЦЬ** разм. *Успець на электрычку*, **УГНА́ЦЦА** – *За вамі не ўгнацца, – раптам прамовіў Уладзік, і толькі цяпер Андрыян Цітавіч заўважыў, што сапраўды ён ідзе вельмі шпарка* (Марціновіч). – *Гм! Глядзі, Сайка, ужо косяць. За імі нідзе не ўгонішся, – заўважыў Шайдоб* (Федасеенка). – *Незакончанае трыванне:* **Паспява́ць, успява́ць.**

**1. ПАСПЕ́ШЛІВЫ** (такі, у якім праяўляецца паспешлівасць; уласцівы таму, хто спяшаецца) *Пачуўся паспешлівы тупат. Нейкія людзі беглі ад Пальмінкі* (Новікаў). *Накіданыя паспешлівай рукой радкі дазваляюць нам цяпер уявіць, што ж адбылося ў Беларусі пасля абвяшчэння рэформы [1861] года* (Кісялёў), **ПАСПЕ́ШНЫ** *Быццам аднекуль здалёк прыляталі і адляталі гукі: абрыўкі слоў, паспешныя крокі людзей...* (Чыгрынаў). *Толькі сэрца не мог спыніць, і яно білася ў паспешным перацюку* (Гартны), **СПЕ́ШНЫ** *Спешнымі крокамі ён пайшоў дахаты* (Бядуля). *А Казік падбег да бацькі і, Юзік бачыў, казаў ён спешным голасам: – Злодзей!.. Злодзей...* (Баранавых), **ТАРО́ПКІ** *[Алёшка] чуў.. частыя таропкія крокі [Рэні] на садовай сцежцы* (Лынькоў). *Рухі ў Тарасевіча былі таропкія, нібы яму было нялоўка, і гэты стан гаспадара пачаў перадавацца і Рыгору* (Арабей). – *Параўнайце:* 2. **Б ы с т р ы.**

– **Паспе́шліва, паспе́шна, спе́шна, таро́пка.**

2. **ПАСПЕ́ШЛІВЫ** (які надта хутка ўзнік, хутка зроблены і таму пазбаўлены абгрунтаванасці, абдуманасці) *Наш паважаны Сцепаненка, відаць, робіць паспешлівыя высновы...* (Шахавец). *Спачатку маці трохі крыўдавала на сына за такую паспешлівую жаніцьбу* (Пальчэўскі), **ПАСПЕ́ШНЫ** *Немцы пры паспешным уцёку не паспелі іх [гарматы] падарваць* (Мележ). *Лабановіч дагадваўся аб прычыне такога паспешнага ад'езду яго прыяцеля і госця, але маўчаў пра гэта: навошта прычыняць чалавеку прыкрасць?* (Колас), **СПЕ́ШНЫ** *Сяргееў быў здаволены, што хлопец не робіць спешных вывадаў, а цвяроза ацэньвае абстаноўку* (Федасеенка), **СКАРАСПЕ́ЛЫ** разм., неадабральнае *І.Замоцін не прызнаваў скараспелых метадалагічных і тэарэтычных канцэпцый* (Мушынскі). *Пасля гаворкі з Паўлам Квітуном Міхаль цвёрда надумаў ажаніцца з Любай, але ўжо назаўтра рашэнне гэтае здалося яму вельмі скараспелым* (Чарнышэвіч).

**ПАСРЭ́ДНІК** (той, хто садзейнічае пагадненню, здзелцы паміж кім-н.) *[Дунін-Марцінкевіч] быў пасрэднікам і хадатаем у розных людзей па справах, звязаных з атрыманнем спадчыны* (С.Александровіч), **БРО́КЕР.**

**ПАСРЭ́ДНІЦКІ** (які мае адносіны да пасрэдніка, пасрэдніцтва) *Адзначаючы гандлёвае значэнне горада, пасол пісаў, што Магілёў займаўся галоўным чынам пасрэдніцкім гандлем з суседняй Польшчай* («Полымя»), **БРО́КЕРСКІ** *Брокерская дзейнасць.*

**ПАСРЭ́ДНІЦТВА** (садзейнічанне пагадненню, здзелцы паміж кім-, чым-н.) *Трэба меркаваць, што калі б Зміцрок Бядуля быў раней знаёмы з рэдакцыяй, ён найрад ці меў бы патрэбу ў пасрэдніцтве В.А.Сасенскага* (Каваленка), **БРОКЕРСТВА** *У гэтай справе нам патрэбна брокерства.*

**ПАСТАМЕ́НТ** (фундамент якога-н. архітэктурнага збудавання) *На крутым пастаменце з граніту Сярод парку стаіць Афрадыта* (Танк). *На пастаменце былі напісаны імёны тых, хто загінуў, вызваляючы горад ад фашыстаў* (Радкевіч), **П'ЕДЭСТА́Л** *Устаноўлена фігура на высокім канічным пастаменце з гранітных валуноў* (Кацар).

**ПАСТАЯ́ННА** (захоўваючы нязменнасць, пастаянства ў праяўленні якога-н. дзеяння, якой-н. прыметы) *Стаў заўважаць, што маці з братавай пастаянна гатуюць яму [Марціну] смачнейшае сняданне* (Каваленка), **ЗАЎСЁДЫ** *Мая дарагая матуля, Прывет і паклон мой табе. Твае я заклятце ад кулі Заўсёды нашу пры сабе* (Астрэйка), **ЗАЎЖДЫ** *Але знаю: якія не возьмеш гады, ты заўжды ў барацьбе, ты ў змаганні заўжды* (А.Вольскі), **УВЕ́СЬ ЧАС** *Сідар Нікіфаравіч – чалавек састарэлы, хваравіты, ён амаль увесь час кашляе* (Аляхновіч), **ВЕ́ЧНА** разм. *Міхась вечна збоку сядзеў, на водшыбе, і хлопцы – хто зараза – часта крыўдзілі яго* (Брыль). *Бацька вечна заняты: то ў абходзе, то высочвае.. глушцоў, то вязе ў замак рыбу або качак* (С.Александровіч), **ВЕК** разм. *Ды не век я тут гарую, Дачакаю волі* (Колас). *[Максіму Астаповічу] здалося, што ён век ведаў гэтыя рысы* (Чорны).

---

УДАКЛАДНІМ

Леанід БУРАК,
заслужаны работнік народнай адукацыі Беларусі, доктар філалагічных навук, прафесар

## ЗНАКІ ПРЫПЫНКУ Ў СКЛАДАНАЗАЛЕЖНЫХ СКАЗАХ

### ж) Складаназалежныя сказы з даданымі часткамі прычыны

1. Даданая частка прычыны звязваецца з галоўнай часткай складаназалежнага сказа пры дапамозе злучнікаў **бо, што, як, а то** і інш., перад якімі звычайна ставіцца коска: *Белаю сарочкаю надары ты сына, бо пайшла ўпрочкі мачыха-мякіна* (П.Броўка). *Злаваць чыноўнік пачынае, што дзядзька вытрыманасць мае* (Якуб Колас). *Загаўкалі сабакі, як пачулі чужых* (Змітрок Бядуля). *Ён прахапіўся, быццам было ў яго многа важных спраў* (Кузьма Чорны). *Давайце малаціць, а то есці хочацца* (Кандрат Крапіва).

2. Калі для сувязі галоўнай і даданай частак складаназалежнага сказа ўжываюцца складаныя злучнікі **таму што, дзеля таго што** і інш., на якія не прыпадае лагічны націск, то гэтыя злучнікі коскай не раздзяляюцца: *У хаце холадна, таму што на дварэ мароз* (Змітрок Бядуля). *Часта прыходзілася спыняцца, таму што дарога была несамавітая* (І.Мележ). *Па прычыне таго што рэчка хутка мялее, рыбы ў ёй амаль не відаць* (Х.Шынклер).

Але калі на адзін з кампанентаў такіх злучнікаў прыпадае лагічны націск, тады пасля яго ставіцца коска, а ролю злучніка выконваюць тыя кампаненты, якія размешчаны пасля коскі: *Зазвінела ў сэрцы радасці струна не таму, што ў кветках расцвіла вясна* (А.Русак). *Цесна робіцца ў грудзях ад таго, што я адказу дачакацца не магу* (Змітрок Бядуля). *Такая бяда здарылася з Арцёмам з-за таго, што Іліко не ў пару сустрэўся з Сімонам Гамрэкелі* (Э.Самуйлёнак). *Дзеля таго, што на дварэ холадна, дзеці гуляюць у хаце* (Б.Мікуліч).

3. Калі структура складаназалежнага сказа мае расчлянёны характар і суправаджаецца працяглай паўзай на стыку прэдыкатыўных частак, то паміж такімі часткамі можа ставіцца працяжнік: *Сэрца ўраз зашчыміць, зашчыміць – бо ўмясціла яно ўсе хаты* (А.Куляшоў). *На ворага ён вока мае – бо праз яго шляхі закрыты* (Якуб Колас). *Хутчэй – а то не паспеем* (Якуб Колас). *Я шчаслівы – што разам з вамі ў паход іду* (Міхась Чарот).

---

Здзіслаў СІЦЬКО

ЧЫТАЕМ КАЗКІ

# ПАДЧАРКІ НАШАЙ КУЛЬТУРЫ

Шматлікія пласты нашай культуры паяднаны адвечнымі спадарожнікамі чалавека — жывёламі. Паяднанне пайшло найперш ад уяўлення пра духоўнае падабенства, а, дакладней кажучы, ад прызнання роўнасці, роўнасці духоўнай істот, што хадзілі на дзвюх і на чатырох нагах. Так узнік татэмізм — вера ў надпрыродную роднасць чалавека (або роду ці племені) і пэўнай жывёлы. Мінулі вякі, тысячагоддзі. Роўнасць замянілася абагаўленнем. Лепшых прадстаўнікоў звярынага свету людзі пачалі абіраць сабе за апекуноў, уяўляючы, што гэтак яны прыдбаюць дадатныя рысы і ўласцівасці. Асабліва ганарыліся ваўком: яго ўяўлялі першапродкам, богам, які меў розныя абавязкі — ад апекавання нябожчыкамі (у старажытных егіпцян) да знішчэння сонца падчас пагібелі свету (паводле скандынаўскай міфалогіі).

Такая абагоўленая істота, прыкладам воўк, мела права на ахвяру, што, як уяўляецца, адлюстравалася ў казцы «Дзед ды баба і воўк».

А пазней, калі чалавек пачаў уяўляць сябе разумнейшым, вышэйшым ад жывёл, калі з'явіўся бог у чалавечым абліччы, жывёлы ўсё ж не былі адкінуты і трапілі ў яго почат, можна сказаць, засталіся з такім жа арэолам святасці. Паводле нашай міфалогіі, ваўкі прыслужвалі богу Ярылу, галоўнаму богу «чалавечага» пантэона нашых продкаў-паганцаў, які пазней увасобіўся ў Святога Юр'я. Яго падавалі за апекуна ваўкоў. Менавіта такім паўстае гэты святы ў казцы «Дурны воўк».

Статус жывёл стаў мяняцца з прыняццем нашымі продкамі хрысціянства. Пад уздзеяннем новага светапогляду і паўсюднага ўсталявання хрысціянскага пантэону звяры, асабліва драпежныя, пачынаюць траціць сваю «святасць». Хрысціянскае светаўяўленне пераводзіць ваўка ў процілеглы, дэманічны свет. Паводле нашай легенды «Аб паходжанні ваўка» яго зрабіў чорт у той жа час, калі Бог стварыў чалавека. Такую ж выснову можна зрабіць, чытаючы казку

### «ЧАМУ ВАЎКІ ЗВАНКА БАЯЦЦА»

*«Служыла ў станавога лісіца і пільна сваю службу выконвала. Няведама, як яна служыла, але, мабыць, яму курэй на абед дастаўляла. Аднаго разу станавы кажа лісіцы:*

*— Прасі ў мяне чаго хочаш за сваю службу, і я ўсё табе дам. Думала, думала лісіца, чаго б тут лепш папрасіць, і кажа яму:*

*— От бы я прасіла ў пана, каб пан мне даў свой званок, і калі я пайду дзе, каб усе баяліся мяне, як пана станавога.*

*Станавы даў ёй званок, але з умовай, каб не згубіла і каб яго нікому не перадавала, бо інакш шкуру здзярэ. Але ліса пазычыла званок ваўку і той пабег скарэй дастаць чаго. Прыбягае на поле к пастухам ды кажа:*

*— От мяне станавы прыслаў, каб вы яму далі самага лепшага барана, а не дасцё, то ён сам зараз прыедзе і вас у халодную пасадзіць.*

*Не паверылі яму пастухі ды давай біць яго, нацкавалі сабакамі, білі, білі — званок адабралі. Прапаў званок, плача воўк...*

*З таго часу як толькі воўк пачуе дзе званок, то ён думае, што гэта станавы едзе яго шукаць, і як жыў скарэй уцякае ад званка».*

Паводле кампазіцыі, логікі пабудовы гэтая казка не можа дараўняцца згаданаму раней шэдэўру нашага казачнага эпасу — казцы «Каза Дарота». Але і тут, нягледзячы на двухпланавасць, на выразнае імкненне асучасніць казку — тут уведзены «мясцовы» ўладар — станавы, добра відаць ягонае архаічнае паходжанне.

Варта нагадаць, што ўяўленне пра звон, як пра сродак супраць злых духаў, нячыстай сілы, не ўзнікла разам з хрысціянствам. Чароўная ўласцівасць металу — гучаць — і ўздзеянне гука, што ўтвараўся ўдарам, была вядомая, як падае Дж.Фрэзер у кнізе «Фальклор у старым запавеце», шмат якім народам Азіі, у прыватнасці кітайцам і некаторым індыйскім плямёнам, а таксама народам Афрыкі ды амерыканскім індзейцам.

Звон, паводле ўяўлення нашых прашчураў, атаясамляўся з громам. І як Ярыла сваім святлом разганяў цемру і абвяшчаў прыход вясны, як Пярун сваімі стрэламі-маланкамі, а пазней святы Юр'я дзідай паражалі «змея», так і звон сваім гучаннем праганяў д'яблаў і нячыстую сілу. (Цікава, што яшчэ зусім нядаўна нат у дзеючых бажніцах забаранялі званіць. І наогул гісторыі вядомы выпадкі знішчэння і пакарання званоў.) А таму, калі ваўка атаясамлялі з нейкай варожай сілай, то і супраць яго спрабавалі выкарыстаць моц звона. Таму ў казцы і гаворыцца, што воўк «як жыў скарэй уцякае ад званка».

Варта звярнуць увагу і на словы «званок адабралі». Калі воўк быў у почаце бога Сонца, калі ён быў за пасланца ў Ярылы і калі стаў хартом Святога Юр'я, ён знаходзіўся пад адпаведнай апекай і, верагодна, сам мог праганяць ці забіваць нячысцікаў. Але пазней культы яго апекуноў заняпалі і адпаведна яго пазбавілі «святой» моцы — «званок адабралі».

Ды шматтысячагадовыя традыцыі, вераванні і ўшаноўванне жывёл не маглі знікнуць без следу. Верагодна, наадварот, як супраціўленне нейкім догмам пачынае мяняцца «здаровае», прыроднае, натуральнае «абагаўленне» звера, больш прыстасаванага да існавання ў суровых кліматычных умовах, на містычнае ўспрыняцце ягоных дадатных якасцей. Ваўкі, пазбаўленыя апекі «сваіх» багоў, вымушаны былі пазбягаць чалавека, весці больш скрытны лад жыцця. Знайшліся і людзі, якія ў воўчай скуры пачалі рабіць тое, што лічылі неабходным. Так з'явіліся ваўкалакі — «людзі, якія перакінуты ў воўка», — што, нацягнуўшы на сябе воўчую скуру, спраўлялі даўнейшыя абрады.

*(Працяг будзе.)*

---

ФІЛАЛАГІЧНЫЯ ЗАГАДКІ

# КАДУК

Сёння рэдка калі пачуеш выслоўі: «Кадук яго ведае», «Кадук яго не бярэ». Мала хто і праклінае так: «Каб цябе кадук забраў». Але не таму, што людзі паразумнелі і падабрэлі, а таму, што нашы трапныя спрадвечныя словы, як і мова, сталіся непатрэбнымі. Таму і *кадука* выракліся, а ў фразеалагізмах яго «замянілі» на *чорта*. Прыкладам, замест выслоўя «Кадук з ім» цяпер кажуць «Чорт з ім». Дарэчы, у «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» слова *кадук,* пазначанае паметай *разм.* (гутарковае), тлумачыцца так: «Чорт, д'ябал». Ды варта падумаць, няўжо настолькі страшны чорт, каб яго баяцца так, як вынікае з прыказкі: «Пакуль багат, датуль не брат, а як прыйдзе кадук, тады брат — і гайдук». Яго ж не спалохалася і бедная дзяўчына з казкі «Падчарка і чорт», а толькі прасіла: «Пейце, куркі, рана!» І як толькі певень пракукарэкаў, дык «чорны, рагаты» адразу прапаў.

Падумайце і напішыце нам, хто такі кадук. А каб крыху палегчыць заданне, падкажам, што даўней гэтае слова чувацьбыло не толькі на вуліцы ды на кірмашы, але і ў судзе.

З.С.

КАЛАСАВІНЫ-94

# ЗАПРАШАЕМ НА КОЛАСАЎ ШЛЯХ

*5 лістапада — урачыстасць у Цёмных Лядах. Трапіць туды лёгка. Трэба прыехаць электрычкай на прыстанак Кучкуны і прайсці 1 кіламетр у бок Стоўбцаў. Злева ад чыгункі на ўзгорку — лецішчы, а справа, непадалёку ад грушы-дзічкі — тое месца, дзе будзе пастаўлены камень з мемарыяльнай дошкай.*



Паводле даўняга звычаю на другі дзень Каласавінаў удзельнікі свята едуць на Стаўбцоўшчыну. Найперш наведваюць Акінчыцы, дзе нарадзіўся народны паэт Беларусі. Гэта першая з мясцін на так званым Коласавым шляху, які злучае ўсе паселішчы, вёскі і ўрочышчы, дзе жыў і бываў паэт. Цяпер Акінчыцы ўваходзяць у межы Стоўбцаў, гэта мікраараён горада і туды ходзіць гарадскі аўтобус. Туды можна пайсці пешшу: цераз пераезд, каля лясгаса, пакінуўшы ўбаку мясакамбінат, па дарозе на Мікалаеўшчыну.

На ўсім шляху пастаўлены драўляныя скульптуры паводле матываў твораў Якуба Коласа. А на Альбуць, да якой ад Акінчыц 6 кіламетраў, вядзе «Сцяжына новазямельцаў», дзе пастаўлены драўляныя скульптуры, што ўвасабляюць герояў паэмы «Новая зямля». Госці звычайна аглядаюць мемарыяльную сядзібу «Альбуць», Смольню, да якой яшчэ 11 кіламетраў, ускладаюць кветкі да помніка Якубу Коласу ў Мікалаеўшчыне.

Сёлета галоўная ўрачыстасць адбудзецца ва ўрочышчы Цёмныя Ляды. Гэтая мясціна знаходзіцца недалёка ад Стоўбцаў, усяго 4 кіламетры, недалёка ад прыстанку электрычкі, які называецца Кучкуны. Калісьці тут была сядзіба лесніка Уладзіміра Міцкевіча, старэйшага сына Міхала. Сюды да брата часта прыязджаў Кастусь Міцкевіч і нат жыў у 1906 і 1907 гадах. Як вядома, паэт быў звольнены з работы за ўдзел у нелегальным настаўніцкім з'ездзе 9 ліпеня 1906 г. А таму ён адкрыў тут прыватную школу, у якой вучыліся 12 дзетак з наваколля і нат са Стоўбцаў. У Беларускай энцыклапедыі гэтая мясціна называецца Смалярня. Гэта тое месца ва ўрочышчы Цёмныя Ляды, дзе стаялі будынкі Стаўпецкай лясной каморы — паводле афіцыйнай тагачаснай назвы. Яшчэ гадоў дзесяць таму на гэтым месцы былі відны падмуркі, стаяў драўляны зруб калодзежа. Але пазней Упраўленне беларускай чыгункі пабудавала тут лецішчы. Таму і камень з мемарыяльнай табліцай будзе пастаўлены па другі бок чыгункі. Ён будзе відзён з акна цягніка. Ёсць намер прасіць Упраўленне чыгункі зрабіць тут прыпынак Цёмныя Ляды.

У Цёмных Лядах, паводле сведчання паэтавай сястры, Якуб Колас напісаў шмат вершаў. Тут ён складаў «Другое чытанне для дзетак беларусаў». І тут, відаць, Колас напісаў артыкул «Беларуская народная школа», які быў надрукаваны ў сёмым (22 снежня 1906 г.) нумары «Нашай нівы» за подпісам Дзядзька Карусь.

Свята прадоўжыцца на мемарыяльнай сядзібе «Альбуць». Там у гэты дзень будзе адкрыта выстава «Пчалярства і рыбалоўства паводле паэмы Якуба Коласа «Новая зямля» — нібы ілюстрацыя да раздзелаў паэмы «Дзедаў човен» і «Падгляд пчол».

**Зінаіда КАМАРОЎСКАЯ,**
**дырэктар Літаратурнага музея Якуба Коласа.**

МЕРКАВАННІ

# НА ЯКОЙ МОВЕ НАПІСАНЫ?

***У навуковай і папулярнай літаратуры я доўгі час шукаю адказ на пытанне: «На якой мове напісаны арыгінальныя ўсходнеславянскія творы XII стагоддзя?» Згодна з ранейшымі доказамі вучоных і мовазнаўцаў свецкія творы перыяду Кіеўскай Русі створаны на старажытнарускай мове. Але як з гэтым пагадзіцца, калі само існаванне гэтай мовы некаторымі навукоўцамі адмаўляецца? Нават дапусціўшы яе існаванне, не робіцца ясна: напісаны яны гэтай мовай ці царкоўнаславянскай? Таму што, па-першае, у большасці артыкулаў увогуле адсутнічаюць звесткі аб мове згаданых твораў. Па-другое, сустракаюцца розныя меркаванні.***

Так, у падручніках для вучняў «Гісторыя БССР» і «Гісторыя Беларусі (1993 г.)» чытаем: «У адрозненне ад каталіцкага Захаду ў культуры і справаводстве Русі прымянялася родная мова. На рускую мову перакладалася рэлігійная літаратура». Значыць, маецца на ўвазе старажытнаруская мова.

У «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі» Л.Кароткая «Аповесць мінулых гадоў» адносіць да старажытнарускіх аповесцей. Яна піша: «З пачатку XII ст. актыўна пішуць царкоўныя і свецкія пісьменнікі, ствараюцца аповесці «Жыціе Ефрасінні Полацкай», «Слова аб палку Ігаравым». Падобнае там, дарэчы, сцвярджаецца неаднойчы. У «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» паведамляецца: «Старажытнаруская літаратурная мова на народнай аснове выкарыстоўвалася... у апавядальнай літаратуры — як «Аповесць мінулых гадоў...», «Слова аб палку Ігаравым». На беларускіх землях эпохі Кіеўскай Русі вядучае месца належала царкоўнаславянскай мове, тут з'явіліся «Словы» Кірылы Тураўскага, «Жыціе Ефрасінні Полацкай».

Пра гэтыя творы А.Крывіцкі ў кніжцы «Наша родная мова» (1964 г.), якой я карыстаўся ў школе, напісаў, што яны — ўзоры старадаўняй усходнеславянскай мовы, аснову якой складала жывая гаворка таго часу, якая гучала ў вуснах народа. Пісьменнік У.Арлоў у некалькіх кніжках пра Ефрасінню Полацкую аб яе «Жыціі» піша: «Гэта адзін з найкаштоўнейшых помнікаў старажытнай беларускай літаратуры», цытуе яго ў перакладзе А.Мельнікава і толькі ў выданні «Святыя зямлі беларускай» паведамляе, што яно напісана на царкоўнаславянскай мове старажытнарускай рэдакцыі.

Аб мове твораў К.Тураўскага М.Багадзяж у кніжцы «Праз смугу стагоддзяў» (1993 г.) адзначыў: «Яшчэ больш падкрэслівае гэту паэтычнасць, святочную ўрачыстасць прамоў надзвычай мілагучная царкоўнаславянская мова». Дарэчы, У.Ігнатоўскі ў сваёй гісторыі Беларусі пра гэтыя прамовы напісаў: «Хоць гаварыў казанні такой мовай, што, напэўна, толькі нязначная частка народа магла зразумець». А Я.Карскі і сучасныя мовазнаўцы мову К.Тураўскага называюць адназначна — царкоўнаславянскай.

Я пагаджаюся з высновай І.Ласкова (кніга «З гісторыяй на «Вы»), што ў перыяд Кіеўскай Русі ўсё пісалася царкоўнаславянскай мовай. Перапісчыкі рэлігійных кніг прытрымліваліся цвёрдых правіл і традыцый. Але аўтары арыгінальных твораў у царкоўнаславянскую мову ўстаўлялі свае мясцовыя словы. Вось такое спалучэнне філолагі палічылі за старажытнарускую мову. «Аднак прыкмет, паводле якіх гэтыя мовы адрозніваюцца паміж сабою, указваюць мала... Таму многія вучоныя прыйшлі да высновы, што творы, складзеныя ў Кіеўскай Русі, напісаны ў асноўным на стараславянскай (царкоўнаславянскай) мове» (Г.Штыхаў, падручнік для 10 кл. «Гісторыя Беларусі», 1994 г.). «Мова «Слова аб палку Ігаравым», летапісаў вызначаецца сінкрэтызмам (злітнасцю) стараславянскай і старажытнарускай моўных сістэм», — сцвярджае А.Яновіч у «ЭЛіМБ». Настаўнікам апошнія тлумачэнні найбольш падыходзяць для практычнай работы.

**Міхаіл ПУЗІНОЎСКІ,**
**выкладчык беларускай мовы і літаратуры.**
г.Ашмяны.

МАТЭРЫЯЛЫ ДА СЛОЎНІКА «БЕЛАРУСКІЯ ІМЁНЫ»

Сымон БАРЫС

# ЯК У НАС КЛІЧУЦЬ?

## МУЖЧЫНСКІЯ ІМЁНЫ

*(Працяг.)*

**Навум.** Наум (яўр.) – той, хто суцяшае. Вытв. Навумка, Навумчык, Навумачка, Навумец. Імяніны 9.08; 14.12. Імя па бацьку – Навумавіч, Навумаўна.

**Назар.** Назарий (яўр.) – прысвечаны Богу. Вытв. Назарчык, Назарка, Назарачка. Імяніны 27.10. Імя па бацьку – Назаравіч, Назараўна.

**Настась.** Анастасий (грэч.) – уваскрэшаны. Вытв. Насцік, Настасік, Настаська, Настук, Настак, Стась, Насташ. Імяніны: прав. 21.01: 3, 4, 6.02; 3.05; кат. 22.01. Імя па бацьку – Настасевіч, Настасеўна.

**Наркіс, Нарцыс.** Наркис (грэч.) – кветка нарцыз. Нарцысік, Нарцызік. Імяніны: прав. 17.01; 13.11; кат. 29.10. Імя па бацьку – Наркісавіч, Наркісаўна і Нарцысавіч, Нарцысаўна.

**Несцер.** Нестор (грэч.) – які вярнуўся дадому. Вытв. Несцерка. Імяніны 13, 14.03; 10.09; 11.10; 9, 10.11. Імя па бацьку – Несцеравіч, Несцераўна.

**Нікан.** Никон (грэч.) – які перамагае. Вытв. Ніканка, Ніканчык. Імяніны 12.07; 11.10; 20,30.11; 24.12. Імя па бацьку – Ніканавіч, Ніканаўна.

**Ніканор. Міканор.** Никанор (грэч.) – які бачыць перамогі. Вытв. Міканорка, Ніканорчык, Ніканорка. Імяніны: 10, 17.01; 10.08. Імя па бацьку – Ніканоравіч, Ніканораўна, Міканоравіч, Міканораўна.

**Нікандра, Мікандра.** Никандр (грэч.) – мужчына перамогі. Імяніны 28.03; 18.06; 7.10; 17, 20.11. Імя па бацьку – Нікандравіч, Нікандраўна і Мікандравіч, Мікандраўна.

**Ніл.** Нил (егіп.) – горны; магчыма ад назвы ракі Ніл. Вытв. Нільчык, Нілок, Нілачка. Імяніны 20.05; 9.06; 30.09; 25.11; 20.12. Імя па бацьку – Нілавіч, Нілаўна.

**Нічыпар.** Никифор (грэч.) – перамаганосец. Вытв. Нічыпарка. Імяніны 13, 22.02; 23, 26.03; 2, 27.05; 15.06; 26.11. Імя па бацьку – Нічыпаравіч, Нічыпараўна.

**Нупрэй.** Онуфрий (грэч.) – які мае асла. Вытв. Нупрэйка, Нупрэйчык, Ануфрэй, Ануфрэй. Імяніны: прав. 25.06; 3.08; 11.10: кат. 12.06. Імя па бацьку – Нупрэевіч, Нупрэеўна.

**Няфёд. Міхед.** Мефодий (грэч.) – арганізаваны, мэтанакіраваны. Вытв. Мяфёд, Міхед. Імяніны: прав. 19.04; 24.05; 17, 27.06; 3.07: кат. Методый – 14.02; 7.07. Імя па бацьку – Няфёдавіч, Няфёдаўна і Міхедавіч, Міхедаўна.

**Павал, Паўлюк.** Павел (лац.) – малы. Вытв. Паўлік, Паўлічак, Паўка, Павачка, Паша, Павал, Пашка, Пашачка, Пашанька, Пацко, Павэлак, Пац. Імяніны: прав. 5, 23, 28.01; 17, 20, 23.03; 31.05; 16.06; 11, 12, 29.07; 30.08; 10, 12, 23.09; 17.10; 28.12; кат. 15, 25.01; 6.02; 2, 7, 22.03; 28.04; 26, 29.06. Імя па бацьку – Паўлавіч, Паўлаўна і Паўлюковіч, Паўлюкоўна.

**Палікарп.** Поликарп (грэч.) – багаты на плады, пладавіты, плодны. Вытв. Палікарпік, Поля, Полік, Карпік, Карык. Імяніны: прав. 8.03; 18.04; 6.08; 11.10; кат. 26.01; 23.02. Імя па бацьку – Палікарпавіч, Палікарпаўна.

**Панкрат.** Панкратий (грэч.) – уседзяржаўны, усемагутны. Вытв. Панкрацік. Імяніны: прав. 22.02; 22.07; 10.09; кат. 12.05. Імя па бацьку – Панкратавіч, Панкратаўна.

**Панцялей.** Пантелеймон (грэч.) – міласэрны, міласлівы. Вытв. Панцюля, Панцік, Паня, Панько. Імяніны 9.08. Імя па бацьку – Панцялеевіч, Панцялееўна.

**Пампей.** Помпей – паходзіць ад рымскага імені Пампей. Вытв. Пампейчык. Імя па бацьку – Пампеевіч, Пампееўна.

**Парамон.** Парамон (грэч.) – цвёрды, сталы. Вытв. Парамонка. Імяніны 12.12. Імя па бацьку – Парамонавіч, Парамонаўна.

**Парфен.** Парфей (грэч.) – разм. Пархом, Пархім, Парфей. Вытв. Парфенка, Парфенік, Пархомка, Пархомчык, Пархімка, Пархімчык. Імяніны: прав. 20.02; кат. Пархом – 9.05. Імя па бацьку – Парфенавіч, Парфенаўна і Парфеевіч, Парфееўна.

**Памфіла.** Памфил (грэч.) – агульны сябра. Вытв. Панфіл, Панфілка. Імяніны 1.03; 25.08. Імя па бацьку – Памфілавіч, Памфілаўна.

**Парфір.** Порфирий (грэч.) – барвовы. Вытв. Парфірка, Парфірык, Парфілка. Імяніны 23.02; 1, 11.03; 28.09; 22.11; 7.12. Імя па бацьку – Парфіравіч, Парфіраўна.

**Патап.** Потапий (грэч.) – адкуль, з якой краіны. Вытв. Патапка, Патапчык. Імяніны 21.12. Імя па бацьку – Патапавіч, Патапаўна.

**Паўлін.** Павлин (лац.) – маленькі. Вытв. Паўлінчык. Імяніны: прав. 5.02; кат. 22.06. Імя па бацьку – Паўлінавіч, Паўлінаўна.

**Пахом.** Пахомий (грэч.) – шыракаплечы. Вытв. Пахомка, Паша, Пашка. Імяніны 28.05; 6.07. Імя па бацьку – Пахомавіч, Пахомаўна.

**Пётр, Пётра, Пятрусь.** Пётр (грэч.) – камень. Вытв. Пеця, Петрык, Пятрок, Пятрык, Пятрук, Пятро, Пятраш, Пятруль, Пецька, Пяцюк, Петрачка, Петрусёк, Петрычак. Імяніны: прав. 3, 10, 22, 25, 26, 29.01; 4, 8, 12, 14.02; 6.04; 16, 31.05: 5, 25.06; 8, 12, 13, 14.07; 22.08; 6, 16, 23.09: 5, 6, 17, 18, 22.10; 5, 8.12; кат. 18.01; 6, 28.04; 19.05; 29.06; 30.07; 1.08; 9.09; 19, 25, 27.10; 21.12. Імя па бацьку – Пятровіч, Пятроўна і Петрусёвіч, Петрусёўна.

**Піліп.** Филипп (грэч.) – які любіць коней. Вытв. Піліпка, Піліпок, Піліпчык, Піля, Піліпей, Пілё, Філя, Філька, Філіпка, Філіпок. Імяніны: прав. 17, 22.01; 7.02; 13, 16.07; 30.08; 18, 24.10; 27.11; кат. 11.04; 3, 11, 26.05; 10.07; 23.08; 22.10. Імя па бацьку – Піліпавіч, Піліпаўна.

**Пімен.** Пимен (грэч.) – пастух; у пераносным сэнсе пастыр, кіраўнік, настаўнік. Вытв. Піма, Пімка. Імяніны 21.05; 20.08; 11.10. Імя па бацьку – Піменавіч, Піменаўна.

**Платон.** Платон (грэч.) – шырокі. Вытв. Платонка, Платонік, Платончык, Платоша, Платун, Тоша, Тошка. Імяніны 18.04; 9, 10.09; 1.12. Імя па бацьку – Платонавіч, Платонаўна.

**Пракоп.** Прокопий (грэч.) – які паспявае, які апярэджвае. Вытв. Пракопік, Пракопка, Пракопчык, Пракапец, Прокша, Проня, Пронька, Проша, Прошка. Імяніны: прав. 3.01; 12.03; 21.07; 5.12; кат. 8.07. Імя па бацьку – Пракопавіч, Пракопаўна.

**Пратас.** Протасий (грэч.) – той, які стаіць у першым шэрагу. Вытв. Пратасік, Пратаска, Пратась, Прот, Працька. Імяніны: прав. 11.09; 27.10; кат. Прот – 19.06; 4.08. Імя па бацьку – Пратасавіч, Пратасаўна.

**Прохар.** Прохор (грэч.) – кіраўнік хору. Вытв. Прахорка, Проша, прошка, Проня. Імяніны 17, 28.01; 23.02; 6.07; 10.08; 11.10. Імя па бацьку – Прохаравіч, Прохараўна.

**Перасвет** (слав.). Імя па бацьку – Перасветавіч, Перасветаўна.

**Прыбыслаў** (слав.) – той, у каго прыбаўляецца славы. Імяніны кат. 27.01; 13.04; 30.10. Імя па бацьку – Прыбыслававіч, Прыбыславаўна і Прыбыславіч, Прыбыслаўна.

*(Працяг будзе.)*

СТВОРЫМ ГІМН БЕЛАРУСІ РАЗАМ

# ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

**1. Мы, беларусы, — вольныя людзі!**
**2. Вольным заўсёды будзе наш шлях.**
**3. Сімвал свабоды — Сцяг Беларусі,**
**4. Бела-чырвона-белы наш Сцяг.**
**5. Хай жа ніколі ён не загіне!**
**6. Бог захавае Белую Русь.**
**7. Наша адданасць — Вольнай Радзіме.**
**8. Хай жа заўсёды жыве Беларусь!**
**9. Праца народа моц і свабоду —**
**10. Годнасць гартуе з году ў год...**
**11. Веліч Радзімы — мужнасць народа,**
**12. Люд Беларусі — слаўны народ.**
**13. Хай жа ніколі ён не загіне!**
**14. Бог захавае Белую Русь.**
**15. Наша адданасць — мілай Радзіме.**
**16. Хай жа заўсёды жыве Беларусь!**
**17. Край наш багаты, шчодры, дзівосны,**
**18. Рэкі павольныя, светлыя тут.**
**19. Мірна гамоняць бярозы ды сосны...**
**20. Цешце, нашчадкі, родны наш кут!**
**21. Хай жа ніколі ён не загіне!**
**22. Бог захавае Белую Русь.**
**23. Наша адданасць — мілай Радзіме.**
**24. Хай жа заўсёды жыве Беларусь!**

**Ад рэдакцыі.** Паўтараем тэкст верша У. Жыгалкі, які ён прапанаваў дапрацаваць грамадою, каб такім чынам стварыць Гімн Беларусі. Радкі вырашана пранумараваць дзеля зручнасці спасылкі на іх у далейшым. Напамінаем: кожны, хто бярэ ўдзел у дапрацоўцы тэксту, можа ў межах агульнай задумы верша дасылаць уласныя варыянты радкоў ці асобных слоў, а таксама падтрымліваць альбо крытыкаваць заўвагу і варыянты іншых удзельнікаў сумеснай працы над тэкстам. Публікуючы іх, мы ўстрымліваемся ад рэдакцыйных каментараў. Дапрацоўка тэксту У.Жыгалкі па просьбе чытачоў працягнута да канца года. Чакаем вашых лістоў, шаноўныя чытачы!

* * *

*Паважаная рэдакцыя, прачытаў артыкул «Створым Гімн Беларусі разам, усім народам!» На маю думку, вельмі добра, што друкуюцца розныя варыянты. Потым, у адпаведнасці з заўвагамі чытачоў, можна будзе выбраць лепшыя строфы і стварыць нешта адзінае ці ўзяць нейкі варыянт цалкам. Таму хачу зрабіць і свой асабісты ўклад у справу стварэння Гімна Беларусі.*

**Віктар ЦЫБУЛЬКА.**
г.Менск.

Маці-Краіна, Маці-Радзіма!
Любая наша, святая зямля,
Мы, беларусы, сям'ёю адзінай, —
Сіла, апора, надзея твая!

Шляхам да волі і шчасця Радзімы
З цемры да сонца, да мары сваёй
Смела ідзіце, нашчадкі Скарыны,
Каб Беларусі квітнець дарагой!

Продкі за волю мужна змагаліcь:
Ведала многа краіна нягод.
З попелу зноў Беларусь адраджалась,
Слава табе, наш магутны народ!

Шляхам да волі і шчасця Радзімы
З цемры да сонца, да мары сваёй
Смела ідзіце, нашчадкі Скарыны,
Каб Беларусі квітнець дарагой!

Наша багацце — матчына мова,
Светлыя рэкі, лясы і палі,
Гонар за продкаў, за мужнасць народа —
Усё, што шануе сын гэтай зямлі.

Шляхам да волі і шчасця Радзімы
З цемры да сонца, да мары сваёй
Смела ідзіце, нашчадкі Скарыны,
Каб Беларусі квітнець дарагой!

# ПАЭТЫ, ДЗЕ ВЫ?

Вырашыла выказаць свае думкі наконт гімна, а яны аспрэчваюць «простую, гранічна праўдзівую» параду Міколы Бусла выкарыстаць словы С.Сокалава-Воюша. Менавіта, словы «Доўбняй марксізму прыбіты народ» і адлюстроўваюць становішча «вольнага люду Белай Русі».

Чаму ў нас то горкая радасць, то «горкая гордасць»?

Гімн — гэта велічны твор, у якім не боль і роспач, смех скрозь слёзы, а асэнсаванне адметнасці свайго шляху ў Сусвеце, гордасць за слынных людзей Беларусі, за яе нязкідкую прыгажосць.

Цікава было б ведаць, што спявалі нашы продкі, ідучы ў бой з крыжакамі, татарамі, маскаўлянамі. А, мабыць, спявалі... Бо песня заўсёды дапамагае, яднае ў самы рашучы момант. У песні чуецца тое, што радуе ці засмучае, хвалюе, непакоіць. Песня — гэта душа, свядомасць народа. Але навошта, калі сёння душа імкнецца ўвысь, супыняць яе ўжо напачатку.

Каму патрэбны гімн?
— Ураду?
— Наўрад ці сённяшняму...
— Селяніну, рабочаму?
— Ды ён за сваімі клопатамі свету не бачыць.
— Інтэлігенту?
— Так.

І гэта таму, што людзі разумовай працы дбаюць найперш пра духоўнасць, культуру, як кажуць, жывуць не хлебам адзіным.

Можа кожнаму паасобку гімн і не асабліва патрэбны, але Радзіме ў цэлым без яго не абысціся. У заходніх краінах ёсць гімны, гучаць яны проста, прыстойна, створаныя на цудоўную, выразную музыку. Так, каб мець прэстыж у свеце, каб удзельнічаць нават у міжнародных спартыўных спаборніцтвах, не кажучы пра зносіны з іншымі краінамі на ўзроўні дзлегацый, гімн патрэбен. Не можам жа мы перакрэсліць сусветную традыцыю, якая сімвалізуе дзяржаўнасць, — наяўнасць герба, сцяга, гімна. Чаму мы павінны выглядаць горш? Таленты ў нас ёсць, каб беларускі гімн загучаў у свеце.

Мае пажаданні такія:
1. Гімн быць павінен.
2. Складаць яго — не справа дылетанта.
3. Музыка павінна быць іншай, бо час тых слоў і музыкі прайшоў, сваю службу саслужыў.
4. Гэта павінен быць твор высокамастацкі, патрыятычнага гучання, павінен акрэсліваць самабытнасць беларускага народа, можа, прыгажосць прыроды, веліч эдзяйсненняў, подзвігаў людзей, павінен быць скіраваны ў вечнасць, каб нашчадкі маглі карыстацца ім і ганарыцца, а не перараблялі, можа, не трэба ў ім і нейкіх палітычных захадаў паказваць.

Слова за вамі, шаноўныя паэты! У кожнага з вас знойдуцца словы, каб занатаваць, паказаць шлях Беларусі ад далёкай мінуўшчыны, каб выказаць веру ў шчаслівую будучыню. Як пісаў хтось:

Но вера человеку диктовала:
Не падай на колени, а иди!

Так, вера павінна клікаць у заўтрашні дзень, няглядзячы на тое, што сёння цяжка мілай Бацькаўшчыне.

**Ніва ШАБЛЫКА.**
в.Кублічы, Ушаччына.

* * *

*Добры дзень паважанаму спадарству! Думаю, што ствараеце новы гімн «руководящей и направляющей»: мелодыя старая, хоць і добрая.*

**Пятро ПІЛІПОВІЧ,**
**ваш пастаянны падпісчык.**
в.Чамярын.

* * *

*Шаноўныя журналісты тэлебачання!*

*Нядаўна я напісала свой тэкст Гімна Беларусі пасля таго, як у вашай «Панараме» выступіў з такой прапановай, на жаль, не паспела запомніць, з якой ён газеты, не ўказалі і адраса, таму пасылаю ліст вам, каб перадалі. А прапанова рэдактара добрая — накont народнага тэксту гімна. Людзі будуць чытаць і прысылаць яму свае творы і ўрэшце дачакаюцца, калі і Беларусь займее гімн, створаны самім народам.*

**Эмілія Фёдараўна МІХАЛАП.**
г.Менск.

# МЫ — ВОЛЬНЫЯ ЛЮДЗІ

Мы, беларусы — вольныя людзі
Сваю адстаялі ў змаганні свабоду,
Жыць вечна ў краіне будзем,
Быць нашаму народу!

Дух адраджэння наш шлях асвятляе,
К шчасцю няспынна заве у паход.
Працай Радзіму сваю праслаўляем.
Слава табе, беларускі народ!

Сілы мацнеюць зямлі Беларусі
варыянт (Сілы збірае народ Беларусі)
І расквітнеюць нашы палі
Жыць будуць духам моцныя людзі
На беларускай нашай зямлі.

Час адраджэння наш шлях асвятляе,
К шчасцю няспынна заве у паход.
Працай Радзіму сваю праслаўляем,
Слава табе, беларускі народ!

Мы будзем жыць шчасліва і вольна,
Ярка заззяе сонца для нас,
І над зямлёю нашаю роднай
Узыдзе надзеі, радасці час.

Час адраджэння наш шлях асвятляе,
К шчасцю няспынна заве у паход.
Працай Радзіму сваю праслаўляем,
Слава табе, беларускі народ!

ТРАДЫЦЫІ І СУЧАСНАСЦЬ



*Баранавіцкі Свята-Пакроўскі Сабор.*

**Фота Белінфарма.**

ЧЫТАЛІ?

# «БЕЛАРУСЬ БУДЗЕ ПАМЯТАЦЬ...»

**У выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі выйшла ў свет кніга «Паходня». Тут сабраны артыкулы, выступленні на мітынгах, інтэрв'ю без пары памершага лідэра Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады, доктара гістарычных навук Міхася Ткачова.**

Ва ўступным слове да кнігі Анатоль Сідарэвіч лаканічна і надзвычай выразна вымалёўвае постаць Міхася Ткачова. У прыватнасці, аўтар згадвае: «Калі Аргкамітэт Грамады рэкамендаваў Устаноўчаму з'езду БСДГ абраць на пасаду старшыні цэнтральнай Рады Міхася Аляксандравіча, мы не сумняваліся, што лідэрам у сацыял-дэмакратаў будзе аўтарытэтны чалавек. Пасля яго фізічнай смерці мы зразумелі, што страцілі чалавека, які па праву мог прэтэндаваць на пасаду першага Прэзідэнта Рэспублікі. Пра гэта казалі не толькі сацыял-дэмакраты».

Збіральнікі кнігі (у выхадных дадзеных згадваюцца толькі рэдактар-складальнік С.П.Самуэль і навуковы кансультант кандыдат гістарычных навук В.У.Скалабан) прарабілі вялікую працу па росшуку матэрыялаў. У «Паходню» ўключаны нават тыя інтэрв'ю, якія ў розныя гады Міхась Ткачоў даваў шматтыражнай газеце «Гродненский университет», а таксама абласным — «Гродненской правде» і «Мінскай праўдзе». Такая пільная ўвага да ўсяго напісанага і сказанага ім зразумелая. Укладальнікі паруліпіся аб тым, каб постаць М.Ткачова паўстала ва ўсёй шматграннасці.

Як быццам асобны герой кнігі — родная беларуская мова, клопат вучонага пра яе адраджэнне. Вось толькі вытрымкі з некаторых інтэрв'ю Міхася Аляксандравіча: «З маладога сораму я кінуўся ў другую крайнасць, калі прыехаў праз год на свае першыя студэнцкія канікулы, то так гаварыў на нейкім суперрускім жаргоне, што маці схапілася за галаву: «Сыночак, родненькі, размаўляй па-гарадскому там, у Мінску, а дома, калі ласка, прашу цябе — будзь чалавекам!» Халодны, як разумееце, душ, і ўсё стала на сваё месца» (газета «Свободные новости»). «Бачу сваю Бацькаўшчыну роднаю сярод роўных у адзіным еўрапейскім доме, са сваёй арміяй (у межах разумнай дастатковасці), таможняй, грашовай адзінкай, эквівалентнай здароваму рублю, долару, фунту, злотаму. Бачу яе з людзьмі, што не грэбуюць мовай, культурай — як сваёй, так і сваіх суседзяў» (газета «Літаратура і мастацтва»). «Пошасць, разлічаная на людзей прымітыўных, шэрых, акаўпачаных камуністычнай ідэалогіяй, падаграваемая сённяшнімі эканамічнымі цяжкасцямі, гуляе па Беларусі. Мэта ў тых, хто ўсё гэта распаўсюджвае, адна — перакрыць дарогу дэмакратычным працэсам, вярнуць грамадства ў ранейшы стан, канкрэтна Беларусь — у абдымкі таталітарнай імперыі. Пазбавіць яе сваёй мовы, сваёй культуры» («Народная газета»).

Укладальнікі кнігі падказалі шлях да збірання ўсяе спадчыны Міхася Ткачова і матэрыялаў, прысвечаных вучонаму. Напрыканцы «Паходні» пададзены бібліяграфія «Літаратура пра М.А.Ткачова», а таксама — «Спіс друкаваных прац М.А.Ткачова (па храналогіі)». Магчыма, з часам будзе выдадзены «Збор твораў» Ткачова. Што да кніг вучонага пра абаронные дойлідства, то ўжо зараз наспела неабходнасць іх масавага перавыдання.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

*Віншуем!*

## «Цябе Бог да нас паслаў!»

***Добры ойча Уладзіслаў,***
***Цябе Бог да нас паслаў!***
***Нашы сэрцы праясняй,***
***Навучай нас, навучай:***

***Змагаць духа злога,***
***Верна служыць Богу,***
***Любіць маму, тату,***
***Край і родну хату.***

Так спявалі дзеці, маленькія вернікі Вішнеўскай парафіі ў Валожынскім раёне Менскай вобласці ў пачатку сёлетняга года для свайго ксяндза Уладзіслава Чарняўскага з нагоды 40-годдзя яго службы ў Вішнеўскім касцёле і 78-годдзя з дня нараджэння.

Гэтак жа шчыра, з вялікай удзячнасцю мы, парафіяне Вішнеўскай парафіі, віншуем зараз а.Уладзіслава з яго «Залатым юбілеем» — 50-годдзем пастырскай службы. Напэўна, да нашых віншаванняў далучацца многія, хто ведае, паважае і любіць нашага ксяндза.

4 кастрычніка 1944 г. у Вільні біскуп Мечыслаў Райніс надаў марыяніну Уладзіславу Чарняўскаму святарскі сан. У канцы кастрычніка 1944 г. кс. Ул.Чарняўскі адслужыў першую сваю святую імшу ў Крэве.

Дзесяць гадоў ён працаваў на Літве. Для мясцовых беларусаў набажэнствы правіў па-беларуску, для літоўцаў — па-літоўску, для палякаў — па-польску. «Імкнуўся быць справядлівым, — гаворыць а.Уладзіслаў. — Мова народа — гэта Божы дар. Кожны народ павінен маліцца ў сваёй мове».

Глумленне над беларускай нацыянальнай культурай і мовай, якое дзесяцігоддзямі з'яўлялася стрыжнем унутранай палітыкі камуністычных улад, адчуў на сабе і Ул.Чарняўскі. Але ён не ступіў на шлях прыстасавантсва і ўгодлівасці. «Я ўжо з Друі быў свядомым (у Друі кс. Ул.Чарняўскі ўступіў у Закон марыянаў). Калі ксяндзоў-беларусаў вывозілі, усё гэта я перажыў, — успамінае а.Уладзіслаў. — Потым не трэба было ні гаварыць, ні вучыць мяне беларускасці. Пазней быў у Варшаве... на нас, беларусаў, глядзелі, як на злачынцаў». («Хрысьціянская думка», № 3, 1993 г.). Але нічога не зламала мужнага святара, які ў самыя змрочныя гады камуністычнага засілля першым на Беларусі стаў правіць набажэнствы па-беларуску.

Прыміце ж, дарагі наш ойча Уладзіслаў, самыя шчырыя віншаванні з «Залатым юбілеем» Вашай службы Богу і людзям. Жадаем здароўя, здзяйснення ўсіх Вашых задум і жаданняў.

**Марыя ТРАПАШКА.**
г.Валожын.

Сакратарыят ТБМ імя Ф.Скарыны і рэдакцыя штотыднёвіка «Наша слова» далучаюцца да віншаванняў а. Ул.Чарняўскага — аднаго з вядомых руплівцаў нацыянальнага Адраджэння Бацькаўшчыны.

# КАЛЯНДАРНЫ ПЛАН РАБОТЫ ДОМА ЛІТАРАТАРА НА КАСТРЫЧНІК 1994 ГОДА

| | | |
|---|---|---|
| **19 кастрычніка серада 17.00** | **На Дзяржаўную прэмію Беларусі Дакументальныя фільмы рэжысёра Міхася ЖДАНОЎСКАГА** | **Вялікая з.** |
| **21 кастрычніка пятніца 18.30** | **Вечарына літаратурнага аб'яднання «Случ»** | **Вялікая з.** |
| **27 кастрычніка чацвер 18.30** | **Прэм'ера дакументальнага фільма «Ветрык арэляў», «Беларусьфільм». Рэжысёр Станіслаў ГАЙДУК** | |
| **28 кастрычніка пятніца 18.30** | **Сустрэча з нагоды... Новая кніга вершаў Галіны Булыкі «Турмалін»** | **Кавярня** |

*АДРАСЫ СЯБРОЎСТВА*

## Хачу прычасціцца да радзімы сяброў...

**Сярод даволі багатай рэдакцыйнай пошты «Нашага слова» апошнім часам нярэдка сустракаюцца надзвычай цёплыя, шчырыя і задушэўныя допісы, з якімі хочацца неадкладна пазнаёміць усю аўдыторыю чытачоў газеты. Якраз такі ліст нядаўна мы атрымалі ад жыхаркі Санкт-Пецярбурга Таццяны Мікольскай, поўны пераклад якога змяшчаем сёння.**

*Шаноўная рэдакцыя! З вялікай цікавасцю я прачытала вашу газету, насычаную разнастайнымі матэрыяламі. Магчыма, слова «прачытала» можа падацца перабольшаным, бо жыву я ў Пецярбургу і ведаць беларускую мову не магу. Гэта сапраўды так — чытанне пакуль адбываецца на ўзроўні здагадак і асэнсоўванняў. Але ўсё роўна — мова ваша прыгожая, і я мару ёй авалодаць, каб свабодна чытаць вашы кнігі і газеты, каб пазнаёміцца з беларускай гісторыяй, культурай, паэзіяй.*

*У свой цяперашні прыезд (на Беларусь) я купіла дапаможнікі для вывучэння мовы. Але ўсваім падарожжы ў блізкую, ды, на жаль, малазнаёмую культуру хацелася б мець верных, цікавых спадарожнікаў — у першую чаргу літаратараў, з якімі можна было б наладзіць творчае супрацоўніцтва. У наш час, калі амаль усе афіцыйныя літаратурныя сувязі перапынены, людзі, відаць, самі павінны пачынаць «народную дыпламатыю» і паступова наладжваць тое, што гэтак лёгка было парваць і цяжка аднавіць.*

*Я звяртаюся таксама да тых, хто цікавіцца гісторыяй хрысціянства на Беларускай зямлі, традыцыямі розных канфесій, бо беларусам заўжды была ўласціва рэлігійная і нацыянальная цярпімасць, што аднагалосна адзначаецца ўсімі гісторыкамі.*

*Прашу зрабіць магчымым гэтае маленькае паведамленне на старонках вашай газеты. Ужо сабраны рэчы і блізіцца час адпраўлення (майго) цягніка на Санкт-Пецярбург, але застаецца магчымасць прычасціцца да радзімы сяброў.*

*Беражы Вас Бог! З павагай*

***Таццяна МІКОЛЬСКАЯ,***
***гісторык.***
*194354, Санкт-Пецярбург, а/с 287.*

* * *

*Прывітанне, паважаная рэдакцыя газеты «Наша слова». Піша вам Мінько Наталля. Я хачу знайсці сяброў па перапісцы. Пра сябе: мне 13 гадоў. Вучуся ў 8 класе. Вучуся добра. Па гараскопу Блізняты. Люблю спорт, музыку, гатаваць розныя салаты. Закончыла музычную школу па баяну ў гэтым годзе. Хацела б перапісвацца з хлопчыкамі і дзяўчынкамі майго ўзросту і старэйшымі. Спадзяюся на водгук сяброў, не абавязкова з нашай краіны.*

***Мой адрас:** 225441, Брэсцкая вобл., Ганцавіцкі р-н, в.Хатынічы, вул.Савецкая, 6. Мінько Наталля.*

*АДРАДЖЭННЕ*



Мястэчка Гальшаны вядома з 1280 года. Але сусветную вядомасць яму надае не даўнасць заснавання, а касцёльны ансамбль у стылі барока, збудаваны ў 1618 годзе графам Паўлам-Стэфанам Сапегам. У свеце існуюць толькі дзве святыні, роўныя гэтай, — адна ў Польшчы, другая — у Іспаніі.

Рэстаўрацыя ансамбля пачалася нядаўна. Але ўжо аднаўлены многія абразы і фрэскі, і французсканцы — гаспадары касцёла — ужо ладзілі там святочную імшу.

Праз некалькі гадоў касцёл паўстане перад вернікамі ў колішняй прыгажосці.

**На здымку:** інтэр'ер касцёла Яна Хрысціцеля.

**Фота БЕЛІНФАРМа.**

*І СМЕХ І ГРЭХ*

*Зоран БОЖАВІЧ*

## ПАЛЕМІКА

У санвузле камерцыйнай фірмы «Рэнесанс» аднойчы з'явіўся нетыповы надпіс: «Далоў аднаўладдзе!» Імгненна даведаўся пра гэта ўвесь калектыў. Азнаёміцца з творам, які перадаваў хоць ананімны, але пратэст, паспелі нават Шана і Майкі, якія наведаліся спецыяльна, хоць знаходзіліся ў гэты час на бальнічных. Дырэктар, вядома, успрыняў такі лозунг як варожы акт, дакладней, як удар па самакіраванні, і загадаў неадкладна перабяліць сцэнку.

Два дні пабыло спакойна, ды на трэці з'явіўся новы лозунг: «Смерць дырэктару-дыктатару!» Паверх яго, калі прачытаў, гэтым разам ужо дырэктар напісаў тоўстымі літарамі сваё: «Смерць лайдакам і плявузнікам!»

Не за доўгім часам туалет ператварыўся ў месца своеасаблівага насценнага друку, з якога можна было даведацца непараўнальна больш, як з афіцыйных крыніц. Стала вядома, колькі дырэктар асабіста атрымліваў ад той ці іншай партнёрскай фірмы, што выносілі начныя ахоўнікі са сховішчаў, хто фальсіфікаваў пратаколы вытворчага савета, хто з кім, хто супраць каго, хто каго... І невядома, калі б гэтая палеміка скончылася, каб не было ўзгаднялнай камісіі, якая пасля шэрага пасяджэнняў прапанавала зачыніць, проста замураваць санвузел.

Вырашана — выканана. І вось ужо тыдзень супрацоўнікі «Рэнесанса» ў абедзенны перапынак бегаюць да бліжэйшай грамадскай прыбіральні, такім чынам яшчэ адну сферу сваёй дзейнасці зрабіўшы даступнай грамадскасці. Учора, між тым, і тут дайшло да інцыдэнту. На дзвярах нехта намаляваў кажу, вельмі падобную да дырэктара. І цяпер многія баяцца: а што калі тая самая камісія прапануе і грамадскі туалет замураваць?

## ТРУСКА

Людзі чарадою праходзяць паўз Мінаса. Гэта сабака-ваўкарэз, наконт радавода якога пытанняў не ўзнікае. Раней яго трымалі на службе ў міліцыі, дзе Мінас наводзіў жах на злачынцаў, а вось апошнім часам ён нясе ахову нашай завадской брамы. Сабака абнюхвае ўсіх па чарзе, і калі ты ў кішэні альбо ў сумцы нешта выносіш, махне хвастом і забрэша. Вахцёрам такіх несуноў правяраць ужо не трэба. Яны выходзяць і далучаюцца да натоўпу сабе падобных, які топчацца каля прахадной, цікуе за астатнімі, а пачуўшы брэх Мінаса, гукае і пляскае ў далоні.

Сёння тых, каго сабака прапусціў, не махнуўшы хвастом і не гаўкнуўшы, сямёра. Ім вахцёры ўчынілі дадатковую труску, амаль дагала распранулі, ды так нічога і не знайшлі, нават казённай туалетнай паперы.

Сядзяць яны, збянтэжаныя і прысаромленыя, цяпер на лаве і не падымаюць вачэй. А навокал раздражненне і крыўда. «Бач ты, чысценькія знайшліся! — абураецца нехта. — Гнаць такіх трэба!» — гучыць з усіх бакоў.

І маглі выгнаць, каб не ўмяшаўся старшыня прафкама. Ён, па сваёй звычцы, гаварыў доўга, размахваў рукамі, даказваў, што яны ж таксама людзі, някепскія таварышы і здольныя выправіцца пры ўмове, калі з імі будзе праведзена адпаведная ідэйна-выхаваўчая работа. Абмеркаваўшы ўсё, мы выраашылі-такі даць ім яшчэ некаторыя шанцы. Калі ў наступны раз Мінас махне хвастом і забрэша — даруем, а калі не — тады някай пішуць заяву па ўласным жаданні.

*Пераклаў з сербскахарвацкай Іван ЧАРОТА.*

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:

220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:

Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 42

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 7251 паасобнік.
Падпісана ў друк 18.10.1994 г. у 15 гадзін.